*Юзва ГАРМАНІСТ* → 3




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


*Новая Воля дапамогі* → 8



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 33 (2935) Год LVII | Беласток, 12 жніўня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Ужо трынаццаты раз, традыцыйна ў ліпені, у гэты раз у апошнюю суботу, больш за дзвесце выканаўцаў прайшло праз сцэну на лясной паляне ўрочышча Барык у Гарадку ў час чарговай „Сяброўскай бяседы". На вачах гледачоў пяклі парасят. Частавалі традыцыйна выпечаным хлебам з Радуніна. Былі песні, скетчы і забаўныя сцэнкі ў выкананні беларускіх калектываў з Падляшша. Фонам сцэны была праца — агромная макатка — выкананая Лявонам Тарасэвічам. І вось на гэтым фоне выступілі тры калектывы, якія прадстаўлялі іншую чым беларуская культуру: хор крымскіх татараў, хлапечы хор з Грузіі (у рамках „Падляшскай актавы культур") і літоўская капэла з Пуньська. Забава працягвалася да позняй ночы, а ў прамым эфіры транслявала яе Радыё Рацыя. Шмат гледачоў, а можа нават і большасць, бывала ўжо на „Бяседзе" ў мінулыя гады. Прызналіся нам у гэтым, між іншым, дзве пажылыя жанчыны, жыхаркі Станцыі Валілы:



Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Сябраванне ў Барыку

— Мы тут штогод. Любім кампанію, а чаго ж нам сядзець дома. Пакуль жывем, будзем тут, каб паслухаць нашых беларускіх песень.

Спадар Уладзімір з Рыбалаў, працаўнік „Пронару" ў Нарве, прызнаўся нам, што летам стараецца паглядзець як найбольш беларускіх мерапрыемстваў. Адной з абавязковых кропак яго падарожжаў з'яўляецца якраз прысутнасць на „Сяброўскай бяседзе". Калі мы спыталіся ў яго, ці і ў гэты раз выбраўся спецыяльна на яе, адказаў:

— А як жа ж! Я гэта проста люблю. Летась быў у Дубічах, Белавежы, тут, а пасля ў Міхалове на першай „Прымацкай бяседзе". Паезджу, пагляджу, паслухаю, і добра! Тут, у Барыку, выступаюць старыя, вядомыя беларускія калектывы, а там, у Дубічах, дзе я сёлета быў таксама, больш украінскія. Завяршу аб'езд у Рыбалах на дажынках. Цікава, чаму нашы гмінныя дажынкі заўжды робяць у Рыбалах, а не ў большым Заблудаве? А ў Рыбалах ужо сапраўдных земляробаў няма.

Спадар Уладзімір спахапіўся, што ў гэты раз можа не паспець на „Прымацкую бяседу", бо, здавалася яму, што адбываецца яна ў той самы час. Уздыхнуў з палёгкай, калі даведаўся, што ў Міхалове ў той самы дзень, што ў Барыку, адбываюцца паказы ў рамках тэатральнага агляду „Вэртэп", а „Прымацкая бяседа" будзе праз тыдзень.

— Ну і добра! А я, вось, еду, гляджу: а ў Міхалове расстаўлены ларкі. Ды ж не маглі б так зрабіць, каб імпрэзы былі ў той самы дзень!

Сярод гасцей „Сяброўскай бяседы" прыкмецілі мы пры століку з беларускімі кнігамі і экземплярамі „Нівы" дэпутата Сейма Яўгена Чыквіна (набыў ён кнігу з аўтографам сядзеўшага за столікам гарадоцкага пісьменніка Анатоля Парэмбскага), а таксама ўпаўнаважанага падляшскага ваяводы па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Мацея Тэфэльскага:

— Усе меншасныя мерапрыемствы звяртаюць увагу ўстановы ваяводы. Летам я бываю ў сярэднім на дзвюх-трох такіх імпрэзах у тыдзень. „Сяброўская бяседа" мае ўласны клімат, адменны ад іншых. Дарэчы, усе мерапрыемствы конкурснага характару падобныя адна на адну, а такая, як гэтая, маюць уласныя, адмысловыя кліматы. Тут вельмі цёпла, не толькі таму, што ў цяні больш за 30 градусаў. Я з'яўляюся ўпаўнаважаным пяты год, ды такое печанае парасятка бачу ўпершыню.

Як звычайна на гарадоцкіх імпрэзах, так і на „Сяброўскай бяседзе" паявіліся гарадоцкія настаяцелі праваслаўнага і каталіцкага прыходаў. Айцец Мікалай Астапчук, настаяцель праваслаўнага прыхода, падзяліўся з „Нівай" уражаннямі ад „Бяседы":

— Я сёння тут, бо разам з прыхаджанамі плачу, але і супольна цешуся. Магу пабыць тут з людзьмі хаця б хвіліну. Хачу пабачыць, як людзі гуляюць, наколькі ў іх культура, наколькі хочуць пабачыць што добрае: што тут падаецца са сцэны. Культура гэта спосаб нашага паразумення, кантактавання, гэта наша бяспека. Чалавек, маючы зносіны з культурай, не адчувае небяспекі.

Гасцінна выступілі „Шкляры" з Бярозаўкі Лідскага раёна. Меў таксама паявіцца іншы ансамбль з Беларусі — „Хмелеўскія валацугі", ды яго сябры не атрымалі ў час у польскім консульстве ў Брэсце віз. „Шкляры", у сем асоб, цяпер заслужаны аматарскі калектыў РБ, узніклі восенню 1969 года пры мясцовым шклозаводзе. Андрэй, гітарыст, заадно адзін з вакалістаў групы, распавядаў нам:

— Не першы раз выступаем на „Сяброўскай бяседзе". Выконваем беларускую, рускую і заходнюю музыку, і па-польску, і па-англійску — ад народнай да рока і рок-н-рола. На гэтым мерапрыемстве мы заўжды пад уражаннем публікі і арганізацыі. Гаспадары заўжды прымаюць нас ад душы. І фактычна пануе тут сяброўская атмасфера на сцэне, і за сталом.

Мерапрыемства адкрыў Юры Хмялеўскі, дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку:

— Бяседа гэта частка нашай культуры, нашага жыцця.

Гарадоцкі войт Веслаў Кулеша пераконваў:

— Гэта імпрэза для ўсіх тых, што любяць музыку, спеў і танец, што паважаюць культуру і традыцыю нашага рэгёна. Для ўсіх тых, хто пасля мастацкіх выступленняў хочуць сустрэцца ў сямейным коле і сярод сяброў.

На „Бяседзе" прысутны быў Яраслаў Малэцкі з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі (гэтаму ведамству падлягаюць справы нацыянальных і этнічных меншасцей; міністэрства фінансава падтрымала імпрэзу). Спыталіся мы ў яго пры нагодзе пра планы звязаныя з фінансаваннем нацыянальных меншасцей у наступным годзе:

— Усё залежыць ад дэпутатаў, якія будуць вырашаць аб бюджэце. Наша ведамства разлічвае на тое, што будзе прынамсі столькі ж грошай, а можа нават трошкі больш. Ды пабачыць, што дэпутаты нам падрыхтуюць.

Дадаў, спаслаўшыся на „Бяседу":

— Я вельмі рады, што гэтая імпрэза — па-беларуску. Прысутнасць беларускай мовы ў штодзённым жыцці павялічваецца. Мы за тое, каб гэтая прысутнасць была як найбольш шырокай. Такія мерапрыемствы гэтаму служаць. Чуваць гэта як у выкананнях калектываў, так і ў іх заяўлянні канферансе.

Імпрэзу грандыёзна (вядома, па-беларуску) вяла вядомая дыктарка тэлебачання, публічна не скрываючая гонару ад сваёй беларушчыны, Маргарыта Пракапюк. Спецыяльным госцем былі „Чырвоныя гітары", якіх публіка выслухала, падобна як і іншых калектывы, не толькі з лаваў перад сцэнай, але і з пледаў раскінутых на траве пад акаляючымі паляну дрэвамі. Супольная забава завяршылася пасля трэцяй гадзіны ночы.





Столік з беларускімі выданнямі, за якім гасціў Анатоль Парэмбскі, наведалі татарскія дзяўчаты



# Знішчэнне беларускага

Не праходзіць і тыдня, каб „беларуская" ўлада не вызначылася якім-небудзь дыскрымінацыйным захадам супраць беларускай мовы. Вось як змянілася ў краіне ў 1994-ым годзе ўлада, так і ідзе паслядоўны працэс знішчэння ўсяго беларускага.

Зараз у цэнтры ўвагі многіх насельнікаў краіны алімпійскія гульні, якія паводле сваіх прынцыпаў пакліканыя да кансалідацыі, згуртавання, залагоджвання грамадскіх супярэчнасцяў. Гэта тое, што ў прынцыпе можа ў нейкай ступені сапраўды з'яднаць і прымірыць нацыю. Але не туды тое. Чарговая дзікая гісторыя. З'явілася на „беларускім" тэлебачанні пару каментатараў, якія пастанавілі весці рэпартажы з лонданскіх арэнаў па-беларуску. І пачалі гэта рабіць. Але ж хутка знайшліся тыя асобы, якія забаранілі гэта! Як звычайна гэта робіцца „па просьбах трудзяшчыхся" — маўляў шмат тэлефанаванняў было ў тэлерадыёкампанію з патрабаваннем каментаваць па-расейску, бо людзям па-беларуску незразумела. І кіраўніцтва тэлебачання пайшло насустрач „народу". З асаблівым цынізмам чыноўніца з адміністрацыі тэлебачання спаслалася яшчэ на тое, што беларуская мова каментатараў не вельмі добрая. Мова іх была сапраўды не дасканалая, але хлопцы стараліся і прагрэсавалі ў сваім маўленні. Школа беларускамоўнага спартовага каментару пачала фармавацца яшчэ ў савецкія часы: Сяргей Новікаў, Уладзімір Навіцкі, Алесь Камароўскі, Уладзімір Даўжэнка і іншыя каментавалі тады па-беларуску і ўсе ўсё цудоўна разумелі. З прыходам суверэнітэту з'явіліся маладзейшыя спартовая журналісты, якія авалодвалі родным словам і ўкаранялі яго ў рэпартажах. Але потым пачалося знішчанне нашай мовы на тэлебачанні — адных проста выпхнулі з эфіру, іншыя перайшлі на расейскую мову. А зараз, калі зноў пайшоў нейкі зрух да лепшага, русіфікатары адрэагавалі вельмі хутка. Хто аддаў канкрэтны загад, які стаў яшчэ адным крокам да этнацыду, — цётка з тэлебачання, ці міністр спорту, ці сам старшыня нацыянальнага алімпійскага камітэту — ужо не так важна. Важна, што ніхто не спыніў гэтае страшна дыскрымінацыйнае і абразлівае для ўсіх беларусаў рашэнне.

Вось сапраўдная і рэальная цана ўведзенага двухмоўя, якое вядзе да дэградацыі нацыі. Навукоўцы на падставе даследзінаў сцвярджаюць, што сярэднестатыстычны расейскамоўны беларус выкарыстоўвае ў штодзённым ужытку ў чатыры разы меней словаў за сярэднестатыстычнага расейца. Як гэта адбіваецца на здольнасці ствараць новае і адметнае? Адпаведным чынам. Вось чаму амаль нічога вартага ў культуры Беларусі па-расейску няма. І не будзе! Тварыць на чужой мове гэтак жа цяжка, як падмятаць падлогу сваім языком.

Выгнанне шведскага пасла Стэфана Эрыксана, акрамя няўклюднай і абсурднай помсты скандынавам за цацачных плюшавых мядзведзікаў, мела на мэце таксама прыніжэнне беларусаў. Бо гэта Эрыксан выдатна вывучыў беларускую мову і меў добрыя стасункі з прадстаўнікамі беларускай культуры і грамадзянскай супольнасці. Гэты дыпламат даўно быў бяльмом на воку ўладных структураў. І вось зараз яму адпомсцілі і за веданне і карыстанне беларускай мовай. А вось амаль усе „беларускія" дыпламаты заўсёды гавораць і выступаюць па-расейску, грэбуючы мовай тытульнай нацыі. Такая вось у нас зараз дзяржава.

4 жніўня споўніўся год як у турме апынуўся Алесь Бяляцкі. Рэжым пасадзіў яго за краты зусім не таму, што ён нібыта нешта парушыў. І нават не таму, што ён дзейсны і эфектыўны грамадскі праваабаронца. Алеся Бяляцкага засудзілі да вязніцы найперш таму, што ён творыць беларускую салідарнасць, бароніць нацыянальныя каштоўнасці. Такія людзі асабліва страшныя для гэтай антыбеларускай улады.

Здзекі з беларусаў і дыскрымінацыя карэннай нацыі на сваёй зямлі працягваюцца. Ніхто не ведае, чым гэта скончыцца ўрэшце — знішчэннем суверэннай дзяржавы і ўласна беларусаў альбо новай магутнай хваляй Адраджэння, якая змые пошасць і дасць нам яшчэ адзін гістарычны шанц „людзьмі звацца"...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Вырошчвальнікі лікаў

Спачатку аб вырошчвальніку незвычайным — Ігары Стравінскім, вялікім расійскім кампазітары, які, калі ў якога калісь спыталіся, для каго ён піша сваю нялёгкую музыку, радасна адказаў: „Для сябе і для гіпатэтычнай другой асобы". А трэба памятаць, што ягоныя авангардныя як на той час творы доўга не маглі дачакацца належнага ім прызнання. На схіле жыцця меў ён аднак прызнацца, што зразуменне таго, што павінен ён кампанаваць перш за ўсё для карысці людзей, заняло яму пяць мільярдаў гадоў. Ну, што ж, лепш позна, чым зусім. Хаця тыя пяць мільярдаў гадоў — страшны лік. Перакладзены на беларускія рублі можа закрунуць у галаве. Ды што там рублі. Сваю абсурдную велічыню гэты лік найлепш паказвае, калі прыкласці яго да шкалы часу. Век Зямлі пры ім немаўлячы — ацэньваецца яго на 3 да 4 мільярдаў гадоў. Чым пры той перспектыве з'яўляецца мільён гадоў неабходны для эвалюцыі чалавекападобных істот? А чым узнікненне першых цывілізацый датаваных больш-менш на 10 міленійных перыядаў? Не гаварыўшы ўжо аб сярэднім веку жыцця чалавека, або, скажам, страчаным для Беларусі дваццацігоддзі жорсткага ўладарання спадара Лукашэнкі? Не забывайма, аднак, што тое, што мы называем мінаннем часу, для людзей гэта суб'ектыўная мерка. Для спяшаючага на працу чыноўніка дзве хвіліны чакання спозненага аўтобуса можа здацца вечнасцю. Для старэчы стаяўшага над магілай яго ўдаснае жыццё можа здацца роўным мігу вока. Інакш успрымае мінаючы дзень Мікола Статкевіч, пакараны 6 гадамі лагера, а інакш спадар Лукашэнка. Так ужо яно ёсць, што кожны мае сваю ўласную мерку часу і кожны з іншай мэтай займаецца вырошчваннем лікаў. Напрыклад спадару Лукашэнку тое вырошчванне ідзе досыць цяжка. З цяжкасцю далічыўся некалькіх прэзідэнцкіх тэрміняў і папраўдзе штосьці бомкае аб чарговых, ды не сумняваюся, што для яго і сто гадоў гэта замала каб дапяць, што кіруе Беларуссю дваццаць гадоў зашмат. І няхай не звальвае віну за гэта на абмануты выбарцаў.

Калі гаворка пра мяне, дык я ў другім класе пачатковай школы, калі захапіла мяне арыфметыка, рашыў сцвярдзіць лікі сумленна, калі б не сказаць дасканала. Меркаваў я так: не штука запісаць ці сказаць, скажам, 5 000 000 000 (пяць мільярдаў). Калі лік мае быць сумленным, павінен стаць рэальным нехк сам па сабе, каб расціць яго як свінню — ад падсвінка да спелага кормніка. Справа ў тым, каб цягу лікаў выказваць бесперапынна. Інакш вырашчаны аб'ект быў бы аднолькава энігматычным, як канец свету, які вучоныя лічаць на якраз 5 мільярдаў гадоў, калі Сонца мае спухнуць быццам шар і праглынуць Зямлю. Пачаў я тады ў думках выказваць чарговыя лікі, пачынаючы ад адзін, два, тры і г.д. Пасля шматлікіх няўдалых спроб далічыўся я ўрэшце да рэкорднага ўзору — дваццаць адна тысяча пяцьсот восемдзесят восем — што і да сёння напаўняе мяне ганарлівасцю. Заняло мне гэта цэлую суботу і мабыць лічыў бы я далей, не зважаючы на сон, калі б не перашкодзілі мне ў гэтым бацькі, устрывожаныя становішчам майго розуму. Калі на іх дапытлівыя пытанні, што я раблю, я адказваў бестурботна, як Стравінскі, чарговым лікам, мама паклікала на дапамогу знаёмую лекарку. А тая, дарэчы, вельмі лагодная асоба, налякала мяне вялікім шпрыцам. Дарэчы, да сёння я панічна баюся ўколаў. Мушу, аднак, сказаць, штой той рэкордны, выпешчаны мною лік — значна каштоўнейшы ад нейкіх абстрактных пяці мільярдаў. Гляньце: застаўся ён у маёй свядомасці як рэальны быт і хоць нематэрыяльны, дык аднак пасрэдна прысутны з-за злавеснага ценю страшнага шпрыца, які да сённяшняга дня хвалюе маю ўяву. Скажу нават больш. Колькі раз прыгадаю я аб ім, адразу мінале мне ахвота, каб стаць дэпутатам у Сейме ці прэзідэнтам. Не мроіцца мне таксама ярмо багацця і мінаючая славутасць. Хапае мне таго, да чаго я дайшоў. Не меў бы, аднак, я нічога супраць, каб знайсці ў спадары Лукашэнку прадаўжальніка майго вырошчвання. Хай бы далічыўся ён нават да пяці мільярдаў. Можа і ён зразумее нарэшце, як Стравінскі, што яго землякі гэта не „гіпатэтычны народ", а змарнаваныя яго нелічыўшымся з нікім і з нічым кіраўніцтвам беларусы. З крыві і касцей. Дык — за работу: 21 589, 21 590...

**Мірaслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Канфлікт замарожаны



У апошні дзень ліпеня перад Апеляцыйным судом прагучала асуджэнне з іску Фонду Царкоўная музыка ў Гайнаўцы супраць гайнаўскага Згуртавання Аматараў царкоўнай музыкі. Гаворка была аб абароне асабістых інтарэсаў, якія, як заявіў шэф Фонду Мікалай Бушко — парушыла Згуртаванне шляхам бяспраўнай спасылкі на традыцыю і гісторыю фестывалю царкоўнай музыкі з апушчэннем заслуг якія паклаў для яго арганізацыі Мікалай Бушко, спачатку як дырэктар Гайнаўскага дома культуры а пасля шэф Фонду «Царкоўная музыка». Апеляцыя ў гэтай справе пасля прысуду Акругова суда ў Беластоку ад студзеня гэтага года была адхілена. Суддзя Ядвіга Хайноўская сорак хвілін абгрунтоўвала матывы судовага вырашэння. На пачатку прыгадала:

— Фонд падаваў, каб адказчык Згуртаванне адмовілася парушаць асабістыя інтарэсы шляхам забароны выкарыстоўвання адказчыкам мастацкіх і арганізацыйных здабыткаў ды рэнаме пазоўніка звязанага з арганізацыяй Міжнароднага фествывалю царкоўная музыка Гайнаўка ды скасаванне з сайта адказчыка інфармацый датычных гісторыі ўзнікнення ды ўсялякіх інфармацый звязаных з мастацкімі і арганізацыйнымі здабыткамі ды рэнаме фестывалю.

Мікалай Бушко ад імя Фонду жадаў змяшчэння на сайце Згуртавання прызнання да «бяспраўнага выкарыстання мастацкіх і арганізацыйных здабыткаў і рэнаме» фестывалю ды «выказання глыбокага шкадавання» Зрургаваннем у сувязі з парушэннем гэтых інтарэсаў і «нечынення гэтага ў будучыні».

Прыгадаем, што ў 2001 г. мітрапаліт Сава адняў блаславенства фестывалю арганізаванаму Мікалаем Бушко. Ад наступнага года ўзнікла Згуртаванне «Аматары царкоўнай музыкі» пачало арганізоўваць фестываль у саборы Св. Тройцы, а Мікалай Бушко і яго Фонд пасля перанеслі сваё мерапрыемства ў Беласток. У маі абодва арганізатары паказалі, што давялі да трыццаці яго выпускаў.

Суддзя Хайноўская, адхіляючы апеляцыю Фонда адзначыла:

— Мікалай Бушко паклаў несумненны ўклад у арганізацыю фестывалю. Аднак не як прыватная асоба, а орган Гайнаўскага дома культуры [да 2002 г. быў яго дырэктарам — М. Х.].

Адзначыла таксама: «Нельга пагадзіцца з думкай пазоўніка, што фестываль быў сапхнуты да пасрэднага рангу».

Наканец падвяла:

— Калі гаворка пра традыцыю звязаную з арганізацыяй фестывалю пачаўшы ад 1981 года, могуць на яе спасылацца так адзін, як і другі бок. Гэта супольная традыцыя ў абсягу суарганізацыі гэтага фестывалю. Немагчыма абвінавацiць у тым, што з-за бліжэй неназваных дзеянняў ды незмяшчэння на сайце Згуртавання, у закладцы «гісторыя фестывалю», акрэсленых інфармацый, датычных яго пачатку, дайшло да парушэння добрага імя Фонду.

Пасля адчытання прысуду, у судовых кулуарах прадстаўляючы Згуртаванне а. Міхал Негярэвіч сказаў журналістам:

— Не чакаў я іншага прысуду. Ён згодны з праўдай. Я хацеў бы аднесціся да выказвання пана Бушко, калі ён абвінавачваў Царкву ў тым, што плаціў Царкве. Гэта чыстая мана. Дарэчы, гэта адзін з прыкладаў круцельства пана Бушко. Гэта не мы выклікалі гэты скандал. Пан Бушко хацеў прысабечыць фестываль. Не цешуся, не радуюся. Я прымаю прысуд. Як духоўная асоба, кожны прысуд прыняў бы я спакойна.

Мікалай Бушко не скрываў расчарвання:

— Гэта для нас несправядлівы, нядобры прысуд. Гэта нядобры прысуд не толькі для нас, але і для іншых устаноў, які паказвае, што можна прысабечыць чыесьці здабыткі і суд гэта пацвердзіць.

Мікалай Бушко пакуль не ведае, ці падасць касацыю ад прысуду Апеляцыйнага суда ў Вярхоўны суд. Айцец Міхал Негярэвіч і Мікалай Бушко пакідалі суд без развітання.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



# Юзва ГАРМАНІСТ

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН



У час аднаго з нешматлікіх і нядоўгіх выступленняў дуэта „Заранiца” сярод публікі апынуўся сур'ёзны мужчына, які, нягледзячы на рэакцыю акружэння, адважна падпяваў і падыгрываў на баяне прэзентаваны дзяўчатамі старыя песні Сакольшчыны. Дыялог спявачак з публікай працягнуўся і пасля канцэрта. Мужчына асабіста рашыў падзякаваць за незвычайную сустрэчу з блізкімі сэрцу мелодыямі дзяцінства. Пры нагодзе заўважыў кепскі стан заранічнага баяна і запрапанаваў уласнаручна яго паправіць. Дагэтуль у мясцовым асяроддзі дзяўчаты сустракалі гарманістаў, скрыпачоў, бубнароў, але пра баяністаў нават і не чулі. Доўга не чакаючы, падаліся яны пад сакольскі адрас незвычайнага добразычліўца. Гаспадар прывітаў іх тактамі родам з вясковага вяселля, адыгранымі на асаблівa гучным, старым расійскім баяне. Раптам музыка прарвалася, ад інструмента па чарзе паабрываліся паясы і шлейкі. „А гэта што такое? — кажа музыкант. — Ад старасці сыплецца. Нічога, зараз паправім”. З кухоннай шуфляды павыцягваў простыя прылады, якімі пачаў майстраваць пры інструменце. Не адрываючыся ад работы, ён працягваў размову з гасцямі.

— Мы тут свае, — расказвае на беларускай мове. — Шэсцьдзесяць пяць гадоў таму я нарадзіўся ў вёсцы Камёнка-Старая, тут і выхаваўся. Вы тудэю сёння ехалі. Мяне завуць Юзаф Мажэйка, для сяброў — Юзва. Калісь іграў на вяселлі за Вострaвам, у дырэктара, якому землечарпалка руку адняла. Можа вы чулі пра яго?

Госці дадумаліся, што гаворка ішла пра пакойнага дзядзьку Яўгена Чабана.

— Гралі мы ўтраіх: на баяне, кларнеце і перкусіі. Помню, прыйшоў там твой прадзед са Слоі, які свайго часу пабываў у Сібіры. Як заспяваў добрую, рускую песню, то аж зачырванеў. Там пачаставалі нас гарэлкай у выглядзе малака. Мой сваяк, кларнецыст, найстарэйшы ў нашай кампаніі, прыказаў не піць, бо паўпіваемся і не будзем граць. Усё ж такі не вытрымалі і паспрабавалі. Гэта быў такі дзіўны спірт. Мы выпілі сабе па шклянцы, але нічога не брала, нават у галаве не закружылася. Сваяк рашыў, што як такая гарэлка будзе цэлае вяселле, то можам яе піць кубкамі. Тады вяселле тры дні спраўлялі. За маіх часоў найчасцей да танца гралі „Сядла пшчулка на яблоні”, „Там коло млына”, „Кэ сара, сара”, „Сэрдушко пука в рытме ча-ча”, „Шэвчык хват”, „Валентына”, „Рабінушка”, „Вё, коніку”. Калісь я іграў за Крынкамі, у вёсцы крытай страхой. Антось аўтобусам гасцей вазіў да шлюбу, а вяселле было ў хаце. Мы ігралі ў сенях, на гліне, бо падлогі там не было. У Крынках таксама іграў, у Кемешаў. Там адна замуж выйшла і мужык памёр, потым за другога пайшла і зноў памёр. Ішоў я згэтуль ужо над ранам, да аўтобуса. Бачу, людзі на балконе муравaнай хаты стаяць, то я ім зайграў, пакланіўся і пайшоў далей. А тут даганяе мяне дзеўчынка, падае торбу і кажа, што гэта ад тата і ад мамы гасцінец. Я падзякаваў, заглянуў у гэтую торбу, а там прут каўбасы і паўлітра. Я падумаў: „От, добро ў Крынках граць”. Дарэчы, я і нядаўна ў Крынках іграў, да шлюбу адпраўляў.

Спадар Юзаф справіўся з папраўкай толькі што адарваных частак старога баянчыка. Усе навакольныя вёскі на ім развесяляў, з ім правёў сваю моладасць. Набыў яго, не помніць калі, ад знаёмага з Чорнай-Беластоцкай, якому інструмент прывезла з Расіі сястра. Баян, як і яго цяперашні ўладальнік, хаця шматгадовы, выпалены сонцам і часам, захаваў свой моцны, глыбокі гук, дзякуючы чаму надалей можа канкураваць з не адным малодшым і зусім новым інструментам. Нажыўся гэты баян усякіх бед, няраз пасля доўгай і шчодрай гасцінны цягнуўся па снезе дахаты.

— Калісь як падап'еш, — кажа спадар Юзаф, — то граючы зусім павыбіваеш галасы ў гармоніі. Потым у хаце трэба раскручваць і рабіць. Ой, часы былі!

Гаспадар, не могучы выседзець без справы, зараз забраўся раскручваць і пераглядаць прывезеныя яму крынскімі наведвальнікамі баяны.

— Яны яшчэ добрыя, — ацаніў, — мала іграныя, бо мяшкі цэлыя, не стралялі. Мой то ўжо пабіты, стары. Усе вяселлі на ім іграў. Няраз п'яны ляжаў пад хатай. Хтосьці пяройдзе, наступіць на мяшок, альбо і сам наступіш. Усяляк здараецца, калі чалавек пап'е. Але ня- праўда, што нельга ад гэтага адказацца. Я прысягу даў у касцёле на пяць гадоў. Тры ўжо прайшло.

Баянаў у спадара Юзафа цэлая калекцыя. Адны прыходзяць і адыходзяць, іншыя застаюцца на ўсё жыццё. Нядаўна сваю чорную, рускую „тулу” аддаў сакольскаму арганісту, які толькі што пачаў вучыцца іграць на гэтым інструменце. Ніколі не расстанецца ён з больш за шасцідзесяцігадовымі „варшавянкамі” — ручна зробленымі і багата ўпрыгожанымі ў майстэрні Юзафа Баруцкага. Тры велізарныя інструменты ўражваюць надзвычай яркімі размалёўкамі, бліскаючымі маленькімі дыяменцікамі і, перш за ўсё, моцным гукам.

— Такіх гармонікаў сёння не знойдзеш, — кажа спадар Юзаф. — Вельмі яны мне дарагія. Часам нават іх цалую, не могучы інакш падзякаваць іх стваральніку, якога напэўна няма ўжо ў жывых.

Юзаф Мажэйка прадэманстраваў некалькі старых, танцавальных шлягераў на кожным з казачна аздобленых баянаў. Рабіў уражанне чалавека-аркестра. Здавалася, што гэта грае цэлы калектыў. Яго цела гарманічна аб'ядналася з адыгрыванымі гукамі і бліскамі жывучых у яго руках інструментаў.

— Я пачаў вучыцца іграць як мне было шаснаццаць гадоў. Маёй першай гармоніяй была чорная педалоўка, а першай песняй, якую на ёй заіграў — „Валентына”. Як я спяваў, то лямпа гасла. Але выразалі мне галасавыя струны. Доктар папярэджваў, што салаўём ужо не буду. Але ж не было выхаду. Да ўсяго дахо- дзіў сам, ніхто мяне не вучыў, не паказваў. На інструмент мусіў сам зарабіць. Бацькі ўсё жыццё бедавалі, ледзь карову купілі, бо малако было патрэбнае дзецям. То былі часы! Мама, будучы на работах у Нямеччыне, вельмі тужыла па роднай хаце. Так ёй там цяжка жылося, што аднойчы хацела пакончыць са сваім жыццём. Ад гэтага рашэння маму адцягнула самая Божая Маці, якую ўбачыла ў сне. Дзякаваць Богу, у ёй нарадзілася сямёра дзяцей, у тым дзве пары блізнюкоў. Я братоў пахаваў; аднаму было пяцьдзесят сем гадоў, другому, які жыў кавалерам у Вярхлессі, сорак восем.

Рамантаваць інструменты таксама пачаў сам, бо, як кажуць, бяда ўсяму навучыць.

— Бачыш, — паказвае наш раскручаны інструмент, — тут галасы адстаюць, паветра ўцякае, таму ён так ціха іграе. Усё трэба пршмараваць. Я калісь галасы дарабляў. Каб іх ашліфаваць, пераварочваў ровар, здымаў кола, прыкручваў камень і тады круціў. От, бяда навучыла...

Маленькае памяшканне спадара Юзафа поўнасцю застаўленае ўсякага роду радыёпрыёмнікамі, магнітафонамі і тэлевізарамі з паловы і канца прошлага стагоддзя. Ён па чарзе пачаў дэманстраваць як працуюць ягоныя тэхнічныя цуды. Сам іх папраўляў і вельмі гэтым ганарыцца. Раскрыў таксама шафу, поўную ўсякіх рамонтных інструментаў, у якой нават каніфоль можна знайсці. Не цяжка дадумацца, што спадар Юзаф сам навучыўся рамантаваць тэхніку.

— Калісь, — кажа, — прадавалі радыёпрыёмнік „Югас”. Ён быў на вялікія батарэйкі, а там чатыры лямпы ўсярэдзіне свяціліся. Я гэта паправіў знаёмаму. Потым пачалі да мяне зносіць радыёпрыёмнікі і тэлевізары. Я ўсё браў, папраўляў. Колькі мяне электраток пацёбаў, але не звяртаў я ніякай увагі. Мне далей хацелася гэтым займацца. У знаёмага ёсць рамонтная майстэрня. Часта бывае так, што прынясе хтосьці тэлевізар, але калі даведаецца колькі каштуе рамонт, то махне рукою, пасылаючы ўсіх у халеру, і тэлевізар застаецца непатрэбным. Тады я бяру яго дахаты і папраўляю. У мяне ўсё працуе. У тэлевізары вузкі вобраз быў. Я яго раскруціў, а там усё спаленым засмярдзела. Уставіў я часць з другога тэлевізара і вобраз паявіўся. Як маеце старыя тэлевізары, то прывозьце, усё прыму.

— Ці вы чулі пра Глушнева? Гэта ў Беларусі, каля Гародні. Так звалі родную вёску маёй маці. Я ніколі там не пабываў, але мама расказвала, што знаходзіцца яна над возерам, непадалёк густога, вялікага лесу. Мой дзед хадзіў туды па грыбы, рыбу лавіў. Маму ў час Другой сусветнай вайны немцы вывезлі на работы ў Бухенвальд. Ёй тады было шаснаццаць гадоў. Як вайна закончылася, яна старалася вярнуцца дахаты, але тут, у Саколцы, не хацелі прапусціць яе праз граніцу. Ейная сястра таксама засталася на польскай старане. Мама пайшла замуж у Камёнку, а ейная сястра — у суседнія Драглі. Маміныя бацькі, не хацеўшы прыняць беларускага грамадзянства, з астатнімі дочкамі таксама пакінулі бацькаўшчыну. На развітанне яны пачулі: „Забірайцеся ў сваю галодную Польшчу”. Іх пасялілі аж за Слупскам, у вёсцы Гарно. Толькі адна маміна сястра Фэля засталася, выйшаўшы замуж і нарадзіўшы дзяцей. Раз тут была на пахаванні бацькі майго швагра. Яна паглядзела на жалобныя цырымоніі, маленні і не вельмі ёй гэта спадабалася. Пачала з нас смяяцца, казала: „Мы не ходзім у касцёл, у Бога не верым”. Мама вельмі гэтым знервавалася і сказала ёй: „Ты не мая сястронка, я цябе знаць не хачу”. Фэля тады яшчэ маладая была, але потым ейны сын на матацыкле забіўся, так і пачала яна ў касцёлак хадзіць. На каленах лезла і плакала. Толькі тады пазнала яна Бога.

Любоў да музыкі і народных спеваў перадалася Юзафу Мажэйку ад маці, якая заўсёды, пры нагодзе сустрэч з роднай сястрой, на два галасы выконвала лірычныя беларускія і рускія творы. Спадар Юзаф зноў узяў у рукі гармонік, на якім адыграў маміныя любімыя песні. Адна за другой плылі цёплыя гукі дзяцінства. Здавалася, што выконваныя мелодыі перанеслі яго душой і целам у прошлае, з якога немагчыма вяртацца. За акном цямнела, а ён не пераставаў іграць. Здавалася, што чым даўжэй іграў, тым больш сіл яму прыбывала. Прысутная жонка растлумачыла, што Юзва такі гарманіст, якому не трэба плаціць, каб ён іграў, але каб іграць перастаў.

## Адгалоска

У 29-м нумары „Ніві" ад 15 ліпеня прачытаў я з вялікай увагай допіс Уладзіміра Сідарука п.з. „Хоць салому з'ем, але хвост дугой трымаць буду" і вельмі над гэтым задумаўся. Знаю я і добра знае Уладзімір Сідарук пагаворку *Mądry Polak po szkodzie*; і гэта праўда, бо наша ўлада хацела паказаць якая яна шчодрая, а дзяржава наша багатая. Мы, найбяднейшыя, чорнарабочыя і пенсіянеры, будзем тыя сто мільярдаў злотаў сплачваць дзесяткамі гадоў.

Што думала найбуйнейшая апазіцыйная партыя ПіС на чале з яе лідарам Яраславам Качынскім не згадваючы пра Еўра-2012; ці яны толькі пра Смаленск думаюць і як пераняць уладу па Грамадзянскай платформе. Лешак Мілер ад СЛД выказаўся аб Еўра-2012 і даказваў як нашы чыноўнікі раскідаюцца нашымі залатоўкамі налева і направа, абы толькі славу сабе зрабіць, а пасля, магчыма, і жабраваць пойдзем.

Усе харчовыя прадукты — некаторыя менш, а некаторыя больш — падаражалі, цэны электраэнергіі, вугалю, драўніны, тэлефонаў падняліся. За вялікія грошы пабудавалі Нацыянальны стадыён, да якога штомесячна будзем расходаваць вялікія грошы на замену муравы.

Наша ўлада быццам гаворыць: „Хоць усяруся, ды не паддаюся."

## Пачалі асфальтаваць

Калі на схіле мая пачалі ў вёсцы Бялкі Нарваўскай гміны рыхтаваць вуліцу пад пракладку асфальтавага палатна, рабочыя гаварылі, што да Крыначкі (трэці дзень Сёмухі) асфальту пакласці не ўспеюць. Рыхтуючыся да гэтага, навезлі на ўсю вуліцу дробнага жвіру, можна папросту сказаць — пяску. Так вёска Бялкі стаяла да 16 ліпеня, быццам у цэнтры пустыні Сахара, бо калі б гарэзлівы вадзіцель якой-небудзь машыны праехаў у пагодны дзень на поўную катушку па нашай вуліцы, дык узняў бы такі пыл, як у час аўтамабільных дакарскіх рэйдаў па Сахары.

У панядзелак, 16 ліпеня, пачалі класці асфальтавае палатно на вуліцы ў Бялках. Гэта будзе вельмі добра, толькі невядома, ці зробяць тратуар. Бо калі вулічнае палатно падымецца ўгару на некалькі сантыметраў, то на некаторых панадворках пасля дажджу будзе стаяць вада, не маючы адплыву на вуліцу. Што тады рабіць селяніну, які зможа купацца на сваім панадворку? Тады пойдзе ў рух папера для пісання скаргаў. А пра гэта трэба думаць раней.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

## Крытыка дапамагла

„Ніва" ў 15 нумары ад 8 красавіка г.г. змясціла заметку пад загалоўкам „Найгоршы прыпынак". Я пісаў: „Прызабытая міні-пачакальня знаходзіцца на аўтобусным прыпынку гарадской камунікацыі ў Беластоку ў канцы вуліцы 27 Ліпеня. Горшай ад ёй не знойдзеце. Гэтая пачакальня зруйнаваная. У ёй павыбівалі шыбы. Дах дзіравы. У дождж пасажырам на галаву цячэ вада, а з бакоў даймаюць скразнякі. Хуліганы паламалі лавачкі".

І вось адказ на нашу крытыку такі: „Беластоцкая гарадская камунікацыя абяцае, што восенню пабудуе тут акуратную паветку".

**(яц)**

# Юрыя КАЛІНУ (не) вызваліць з працы

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

— Новы дырэктар беластоцкага цэнтра публічнага тэлебачання прабуе выкінуць з працы аўтара больш за сотні дакументальных фільмаў, прызёра шматлікіх узнагарод, дзеяча беларускай меншасці ў Польшчы і вялікага прыяцеля польскай меншасці ў Беларусі, — інфармаваў нядаўна лакальны дадатак да „Выбарчай газеты". Як удалося вызначыць „Ніве", выконваючы абавязкі дырэктара беластоцкага тэлецэнтра TVP Гжэгаж Савіцкі, які раптам замяніў адкліканую ўправай тэлебачання Агнешку Рамашэўскую, фактычна прымаў пад увагу пазбаўленне Юрыя Каліны паўштату, на якім працуе ў TVP Беласток. Пасля медыяльнага закалоту ў гэтай справе і ўключэння ў яе некаторых палітыкаў, в.а. дырэктара адмовіўся ад задумы, хаця сам да яе не прызнаецца.



Фота Агнешкі ПРАХОВІЧ

Юры Каліна з „Мэльхіёрам"

Юры Каліна працуе ў TVP ад семнаццаці гадоў. Дасюль выконваў функцыю сакратара рэдакцыі TVP Беласток, значыць, правай рукі папярэдніцы цяперашняга в.а. дырэктара, а таксама быў рэдактарам праграмы беларускай меншасці „Беларускі тыдзень". Быў адзначаны шматлікімі ўзнагародамі на польскіх і міжнародных фестывалях, у тым ліку за фільмы „Чарнобыльцы", „Пагоня за праўдай", „Апошні дыктатар Еўропы", „Партызанская школа", „Ад мору і голаду" ці ў апошні час за „Архімандрыта". Сёлета быў адзначаны „Залатым Мельхіёрам" у катэгорыі „Інспірацыя года" ў конкурсе рэпарцёраў Польскага Радыё. Пасля тэлевізійных візітаў у чарнобыльскай зоне захварэў вірусным запаленнем пячонкі тыпу С. У сваю чаргу Гжэгаж Савіцкі пачаў працу ў беластоцкім тэлецэнтры ў 1997 г., значыць, у год яго ўзнікнення. З'яўляецца выпускніком філалагічнага факультэта ўніверсітэта ў Беластоку (усходнеславянская філалогія; не хацеў у размове з намі сказаць, аб чым пісаў магістэрскую працу). У TVP Беласток быў рэпарцёрам і дыктарам ды выдаўцом праграм. У апошні час займаў пасаду старэйшага рэдактара TVP Ольштын. Як журналіст быў некалькі раз узнагароджваны, галоўным чынам за заслугі для супрацпажарніцтва. Ягонае назначэнне было нечаканасцю. Неафіцыйна гаворыцца, што назначылі яго на пасаду в.а. з ключа ПСЛ, якое ў падзеле ўлады ў публічным тэлебачанні насаджвае цэнтры сваімі людзьмі. Першым ягоным персанальным рашэннем на пасадзе мела быць якраз спроба адклікання Юрыя Каліны. Як даведаліся мы з колаў набліжаных да галоўнага цэнтра TVP, у рамках планаванай рэструктурызацыі тэлебачання (план мае быць агучаны да канца жніўня), у беластоцкім тэлецэнтры мають быць уступна рэдукаваны тры і паўштату. Тое паўштату — з задумы Гжэгажа Савіцкага — гэта меў быць штат Юрыя Каліны.

— Усю TVP чакае рэструктурызацыя і будуць роблены ашчаднасці. Кожны з шэфаў тэлецэнтраў будзе мець цяжкія рашэнні, таксама персанальныя, — прадбачыла ў размове з „Нівай" прэс-сакратар TVP Іаанна Стэмпень-Рагалінская.

З яе выказвання вынікала, што персанальных дзеянняў Гжэгаж Савіцкі не мусіць кансультаваць з управай. Наколькі нам вядома, задума звальнення Юрыя Каліны — афіцыйна кансультаванай не была. Сам в.а. дырэктара сказаў „Ніве":

— Не было рыхтавана звальненне спадара Каліны і не было спробы яго ўручэння. Усе персанальныя рашэнні я мушу кансультаваць і мусяць яны быць адобраны Варшавай. Меў я размову са спадаром Калінам [у прысутнасці юрысткі і галоўнай бухгалтаркі — М. Х.] на тэму сітуацыі ў тэлецэнтры. Буду змагацца за штаты.

Калі мы размаўлялі з Гжэгажам Савіцкім, ён запэўніваў:

— Спадар Каліна надалей застаецца на пасадзе сакратара рэдакцыі.

Сам Юры Каліна не выказваецца на гэтую тэму (вымушаны маўчаць?). Як аднак мы даведаліся ад аднаго з працаўнікоў галоўнага тэлецэнтра, сам адмовіўся некалькі дзён таму ад гэтай функцыі. Надалей працуе на паўштату ў TVP Беласток, а на другой „палавінцы" надалей ён у тэлебачанні „БелСат", якім кіруе ад 2007 г. Агнешка Рамашэўская. Яна пасля паяўлення інфармацый аб спробе звальнення Юрыя Каліны м.інш у выказванні для Радыё Рацыя здзіўлялася, як увогуле можа прыйсці ў галаву такая задума:

— Гэта для мяне незразумелае. Гэта сапраўды тэлевізійны прафесіянал. Гэта несумненна адзін з найлепшых працаўнікоў тэлебачання, найлепшых дакументалістаў.

У абароне Юрыя Каліны стаў таксама падляшскі дэтутат ад кіруючай Грамадзянскай платформы Роберт Тышкевіч, віцэ-старшыня сеймавай камісіі замежных спраў ды член камісіі культуры і СМІ. Палічыў ён спробу звальнення Каліны за „асабліва шкоднае для тэлебачання і гледачоў". У лісце прэзасу TVP Юльюшу Браўну (яшчэ да нашай размовы з Гжэгажам Савіцкім) папрасіў асабіста заняцца гэтай „шакавальнай справай". Напісаў: „Незалежна ад таго, што фармальна спыненне працоўных адносінаў не было яшчэ з поспехам уручана [пасля „рэструктурызацыйнай" размовы з в.а. дырэктара, Юры Каліна быў у бальнічным водпуску — М. Х.], воля дырэктара тэлецэнтра відавочная. Я лічу гэтае рашэнне глыбока неадпаведным і шкодным — заадно як для іміджу Польскага тэлебачання, як і будавання грамадскага даверу да публічных СМІ. У падляшскім рэгіёне, дзе пражывае шмат нацыянальных і канфесійных меншасцей, гэтае рашэнне выклікае таксама сур'ёзныя спрэчнасці сярод прадстаўнікоў меншасцей. Беларускі Саюз у РП палічыў магчымасць звальнення Юрыя Каліны за „дзеянні на шкоду беластоцкага тэлецэнтра".

Паралельна з інфармацыяй аб прымерках да спынення працоўных адносінаў у беластоцкім тэлецэнтры Юрыю Каліну, Анжаліка Арэхва, прэзас Саюза палякаў у Беларусі передала прэзасу TVP Юльюшу Браўну ліст з падзякай са сарганізаванне Калінам акцыі збору камп'ютарнага абсталявання для СПБ. Можна было ў ім прачытаць: „Некалькі тыдняў таму гродзенскае КДБ рэквізавала ўсю нашу камп'ютарную базу, што зрабіла немагчымай нашу працу. Рэдактар Каліна неадкладна сарганізаваў акцыю збору, у якой прынялі ўдзел Тэлецэнтр Беласток і тэлебачанне БелСат. У яе выніку мы атрымалі пяць камп'ютарных станцый, у тым ліку дзве новыя".

Вернемся да Гжэгажа Савіцкага. Ініцыятыва яго заяўлення на пасаду — як прызналася нам прэс-сакратар TVP, якая працуе ў гэтай установе восем гадоў — належала члену ўправы тэлебачання Мар'яну Залеўскаму, пасля афіцыйнага аб'яўлення г.зв. набору:

— Пакуль пан Савіцкі выконвае абавязкі дырэктара тэлецэнтра. Яго кандыдатуру мусіць яшчэ адобрыць Наглядальная рада. Ды, вядома, не мусіць.

Пры нагодзе ў дзень размовы з „Нівай" заявіла між іншым:

— Толькі ўчора я пачула, хто гэта ёсць пан Каліна.

Дарэчы. Калі мы размаўлялі з Гжэгажам Савіцкім, прадбачыў ён, што ў асенняй рамоўцы беластоцкага тэлецэнтра зноў паявяцца спынення Агнешкай Рамашэўскай па фінансавых прычынах праграмы ромскай і татарскай меншасцей. Можна меркаваць, што праграма расійскай меншасці надалей будзе фінансавацца пасольствам Расійскай Федэрацыі, што выклікае рознагалоссе. Праз тыдзень Тэлебачанне Беласток будзе трансляваць візіт маскоўскага патрыярха Кірылы. Гэты выклік (яшчэ да спрэчнай размовы) Гжэгаж Савіцкі даручыў... Юрыю Каліну.



Тэкст і фота Евы СЦЕПАНЮК

# На хвалі святой камерцыі

У момант, калі ўсё здавалася ўжо запітым, з'явіўся Меркурый Смаленскі, беларускі „святы без галавы". І калі б не ён, гэты аповед прапаў бы ў цьме камерцыйнай тусоўкі, якая вялася ў краме са святымі іконамі і грэчаскім золатам...

Магчыма, яго імя наклікала касмічная панарама Метэорскіх манастыроў, пра якія кажуць: цуд. Меркурыя „ведаю" адно з уяўлення ад прачытанага чвэрць веку таму апокрыфа, старабеларускага літаратурнага помніка XIII ст., з галіны гэтак званай фантастычнай агіяграфіі. З таго часу святы час ад часу з'яўляецца ў маім сне і брыдзе з галавой пад пахай у невядомы бок, з рашучасцю, як жывы імператыў...

Гэтае падарожжа ў Метэорскія манастыры таксама было як сон. Ад самага рання з неба ліўся невыносны жар, з-за чаго прыдарожныя вобразы здаліся размытымі, несапраўднымі. Ад спаленай сонцам да белага травы пахла соллю. Большасць дарогі, якая ішла з Алімпійскай Рыв'еры ў Метэорскія манастыры, слалася плоскай далінай, з якой калісь сасупіла мора. Беластоцкія жанчынкі, што складалі семдзесят адсоткаў экскурсіі, бесперапынна сакаталі пра кулінарныя цуды. На першым месцы быў тут пікантны салацік з агуркоў і перчыку чылі, аладкі з *цукініі* і цвет настурцыі засмажаны ў бліначчым цесце ў глыбокім алеі... Дзядзькі, каб не глытаць упустую слінку, дамагаліся *караокэ: Можа шум, птакув спеў...*

Дзесяці перад самымі Метэорамі наш гід ажывіўся і як місіянер пачаў хваліць адну краму з сувенірамі:

— Кожны з нас павінен набыць ікону свайго святога патрона, — абвясціў ён катэгарычным тонам. Ён дадаў, што дзеля гасцей з Беластока, значыць нас, тут наладзілі адмысловую прамоцыю. Той хто страціць тут еўра, дык зусім не растраціць грошай — наадварот, ён яшчэ заашчадзіць. Бо тыя, што набудуць найдаражэйшую ікону, прымуць удзел у самавітым конкурсе з самавітымі падарункамі. Падарунак не абы-які — падумайце сабе: такая ж цудоўная ікона!

Ад назойлівага маркетынгу, памешанага з пахам сасмажанай у бліначным цесце настурцыі, у мазгах штосьці сарвалася, памутнела.

— А гасцей з Беластока, — цягнуў наш гід, — тут абажаюць як нікога ў свеце. Спецыяльна дзеля нас яны рашылі саступіць з цаны і панізіць усе тавары на трыццаць адсоткаў...

У грамадзе пайшоў электрычны шумок:

— To musi wiedzo że u nas jest prawosławne! — шапнула ў мой бок суседка Рэня.

У замежнай экскурсіі больш чым дзе чалавек дурны і прэтэнцыёзны. У якасці прыкладу хай паслужыць згаданая ўжо кулінарыя. Паводле яе, у Беластоку адны гурманы настурцыі і арыстакраты смаку.

На канец нас таксама чакала кулінарная навіна. Наш гід ненатуральна прыміліўся і салодкім тэнаркам проста запеў:

— Спецыяльна дзеля нас у краме падрыхтавалі грэцкі пачастунак. Трэба ж дацаніць іхні жэст!

— Трэ-э-э-э-ба ж! — адгукнула экскурсія.

Пытанне пра метэорскіх святых амаль зусім не асвятлялася. Запамятаўся адно адзін фантастычны намёк:

— Кажуць, што першы манах і заадно заснавальнік манастыра дастаўся на гару на крылах арла, — адзначыў наш гід. — *Ale czy to prawda?*

* * *

Сучасная праўда аб'явілася ўжо на пачатку. У парозе крамы з іконамі і грэчаскім золатам, якая знаходзілася ля падножжа манастырскага комплексу, на *добры дзень* пачаставалі салодкай гарэлкай *кузо* і прыпудранымі цукеркамі-жэле. Тут добра ведалі, якія патрэбы ў „польскай" экскурсіі. Самай пажаданай і важнай іконай у Грэцыі паказалася ікона Божай Маці... Чанстахоўскай і Маткі Боскай, вядомай як Зельна!

Пакупнікоў чакаў яшчэ прэтэнцыёзны расповед пра тэхналогію *пісання* іконы і цудадзейныя ўласцівасці такога сувеніра.

— *Mowią, że święci na naszych ikonach spełniają wszystkie życzenia. Alež prosze się nie krępować! Proszę się częstować kuzo...*

Так, тут у сэрцы Элады, прэзентацыя ікон адбывалася на польскай мове (вяла яе дзяўчына, эмігрантка, родам з польскай Карпатыі). Яе гутаркі напаміналі беластоцкі панадворак. Як у нас жыццё заставіла спалучыць грэчаскіх, рускіх і рымскіх святых, паводле ключа: на адну літару... Кожны чалавек цікаўны, як выглядае яго святы патрон-імяннік.

— А ёсць святы Дамінік? — спытаўся старэйшы дзядзька з нашай экскурсіі, апрануты як на рэйд сафары.

— Калі ласка, вазьміце святога Дзімітрыя, — прапанавала яму з чароўнай усмешкай прыгажуня, — гэта амаль як адно...

У здзелках, якія вяліся па поўнай праграме, найбольш падабалася мне слова „амаль". Яно выступала амаль у кожным выпадку, калі Бэаце прадавалі Барбару і адначасова ачышчаліся ад грэху маны...

Як усе з нашай экскурсіі, я таксама рашыла пакарыстацца прамоцыяй і пацікавілася выявай святога Сцяпана. На жаль, шэсць іконаў з гэтым святым, што стаялі ў адной кучцы, былі скляпаныя на адзін капыл, без адчування індывідуальных прыкмет. У галаве залуналі думкі пра надыход эры клонаў, ад якога веяла калектыўным прыгнётам. І назойлівасць, якая садзейнічае такім акцыям. Вось, у час калі я ў духу крытыкавала серыйную іконку святога Сцяпана, за маімі плячыма стаяла ўжо трох купцоў. Яны адразу пачалі мяне намаўляць... Ад іх намоў і хвальбы (*віншуем добрага густу!*) я была гатова купіць усе шэсць гэтых святых Сцяпанаў. Тады менавіта прыйшоў з дапамогай беларускі святы:

— Мне то патрэбны Меркурый Смаленскі, — прамовіла я несваім голасам.

— Калі ласка, — адказала мне ўпэўнена прадаўшчыца і стрымгалоў пацела да свайго камп'ютара. Папраўдзе, я ніколі не бачыла іконы святога Меркурыя Смаленскага. Ды ніхто з маіх знаёмых з прыцаркоўных колаў не бачыў яго іконы...

У міжчасе прадаўшчыца, якая ляцела да свайго камп'ютара, завярнулася ў мой бок...

— Скажыце яшчэ раз: як называецца той ваш святы? — спыталася. З яе твару зляцела тая механічная прафесійнасць...

* * *

— Ну і напаілі дурня, — кажа пасля выхаду з крамы Рэня, тая ад „праваслаўнага Беластока". — Ці мне патрэбная ікона Чанстахоўскай Багародзіцы? Падару яе знаёмым каталікам, хай маюць падарунак з Грэцыі!

Апрача ікон амаль усе жанчыны набылі залатыя ланцужкі на шыю, рукі і ногі. Залатыя падарункі яны набывалі сваім дочкам, цёшчам, сяброўкам. Грэцкае золата таннае як боршч. Залаты бранзалет можна набыць ужо за дзесяць еўра. Вядома, не ў той краме, што нібыта абажае людзей з Беластока. Купля таго золата наклікала скрыгат зубоў, бо тут заплацілі ў тры разы даражэй, чым у нармальнай грэчаскай краме.

Натхнёная прамоцыяй падрыхтаванай „пад польскую экскурсію", я стала дапытвацца яшчэ пра беларускіх святых: Еўфрасінню Полацкую, Афанасія Брэсцкага, Кірылу Тураўскага і, вядома, пра Гаўрыіла Заблудаўскага, вядомага ў свеце як Гаўрыіла Беластоцкага. Прысутнасць апошняга святога мела пацвердзіць тую выключную сімпатыю грэкаў да жыхароў Беластока, пра якую сушылі нам галаву ў дарозе.

На месцы паказалася, што пра беларускіх святых і не чулі.

— To może zamiast tego Merkurego weźmie świętego Marka? — прапанавала мне збітая святым з панталыку прадаўшчыца. У той недзелавой атмасферы я распавяла агіяграфію беларускага і рускага святога, які дзейнічаў нават з адсечанай галавою. Нам прыслухоўваўся сам уласнік крамы.

— Гэта цікава, — пачуўла я ў адказ. Хаця на тварах прадаўцоў я не прыкмеціла цікаўнасці, святы Меркурый зрабіў сваю справу. Праз паўгадзіны, калі ў краме яшчэ царыла гульбішча торгу, да мяне падышоў уласнік крамы. Ён прынёс мне ікону святога Харлаампса. З дапамогай перакладчыка я даведалася, што ікону знайшлі аж на гарышчы ў старой майстэрні. Яна не карысталася камерцыйнай папулярнасцю. Святы Харлаампс — метэорскі святы. Ён, як і Меркурый Смаленскі, спазнаў Божае натхненне і абараніў сваіх аднапляменцаў ад духоўнага прыгнёту і ментальнага янычарства...

*(працяг будзе)*

# Купалле ў Нараўцы

Купалле ў Нараўцы святкавалі 14 ліпеня. У гэты дзень у гмінны цэнтр завіталі замежныя і айчынныя беларускія калектывы — „Купалінка" з Мінска, „Росніца" з Гродна, „Нараўчанкі" з Нараўкі, „Сэр'ён" з Гайнаўкі, „Сакрэт" з Міхалова „Цаглінкі" са Старога Ляўкова і „Зорка" з Беластока. Да танцаў падыгрывалі калектывы „Сказка" і „Сэр'ён".

Купальскія святкаванні пачаліся карагодам. Усе калектывы прайшліся з вянкамі ад Гміннага асяродка культуры праз Нараўку на стадыён, дзе адбылася галоўная ўрачыстасць. У час шэсця ўсе разам спявалі песню „Купалінка". Да карагода далучаліся паасобныя жыхары Нараўкі і навакольных вёсак, госці зблізку і здалёк. Мерапрыемства адкрыў войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч, які шчыра і сардэчна прывітаў гасцей і шматлюдную публіку.

Трэба сказаць, што такія мерапрыемствы спрыяюць інтэграцыі лакальнага грамадства на этнічнай аснове. Карыстаюцца яны падтрымкай дзяржавы, якая імкнецца да інтэграцыі ўсіх нацыянальных меншасцей з грамадствам краіны. Гэта бачна ў апошнія гады як вынік палітыкі дзяржавы ў адносінах да нацыянальных меншасцей. Дзякуючы гэтаму актывізуецца мастацкая самадзейнасць, развіваюцца кантакты з калектывамі з Беларусі. Праз мастацтва, музыку, фальклор мясцовыя беларусы пазнаюць духоўны свет свайго народа.

Вянкі, з якімі калектывы ішлі ў карагодзе, ацэньваліся адмысловай камісіяй. Першае месца атрымаў вянок калектыву „Цаглінкі", другое — „Росніцы" з Гродна, а трэцяе — „Нараўчанак" з Нараўкі.

З вялікім задавальненнем удзельнікі нараўчанскага Купалля слухалі беларускія народныя песні. Свята прайшло на ўзнёслай ноце, у атмасферы разумення і яднання.

**Віктар БУРА**

# Ухабістыя тратуары

9 ліпеня г.г. у Беластоку ішоў я па вул. кардынала Вышынскага ў напрамку ЗУС. Паабапал гэтай шырокай вуліцы ёсць таксама шырокія, ажно ў 11 радкоў плітаў, тратуары. Усё было б добра, калі б яны былі роўныя. А так то ісці трэба павольна ды асцерагацца, але каб падбегчы гэта ўжо рызыкоўна. Можна зачапіцца за няроўна пакладзеныя пліты.

Не інакш ёсць у пачатку вуліцы Юравецкай, якая адыходзіць убок ад вул. Сянкевіча.

Варта дадаць, што гэтыя вуліцы знаходзяцца ў цэнтры горада. На лепшыя тратуары трапім нават на ўскраінах горада.

*

Каб даехаць у Саўляны, я чакаў аўтобуса лініі № 13 гарадской камунікацыі БКМ у пачатку вуліцы Сянкевіча, ля скрыжавання з вул. Легіяновай. Прысеў я на лавачцы з драўляных прутоў пад дашкам. І тут вось што ўбачыў: побач мяне з лавачкі тырчэў тоўсты ды востры цвік! Пакуль прыехаў той аўтобус, я паспеў напісаць і прыклеіць картачку з надпісам: „Асцярожна, цвік!". Старэйшыя бываюць больш уважлівыя, а дзеці могуць пакалечыцца. Так вось, бываюць і небяспечныя лавачкі.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Мяне цешыць, калі дзеці хочуць нешта рабіць дадаткова...

*Сугучнасць прозвішча гераіні інтэр'вю і рэдактар Зоркі выпадковая*

У чацвёрты дзень Сустрэч мы наведалі школу ў Нараўцы. Спецыяльна пад наш візіт настаўніца Ганна Кандрацюк падрыхтавала конкурсы пра Нараўчанскую гміну. Рэдакцыя „Паплі" рашыла ўзяць інтэр'вю ў настаўніцы, якая з'яўляецца аўтарытэтам для нашых сустрачанскіх хлопцаў і таксама аўтаркай этнаграфічнага альбома „Поўна хата экспанатаў".

***П: — Чаму Вы выбралі прафесію настаўніцы?***

**ГК:** — Я выбрала прафесію настаўніцы таму, што як вучылася ў пачатковай школе, я любіла гуляць у „настаўніцу". Маім вучнем была тады старэйшая сястра. А калі я была ў ліцэі, мой выхавацель заўсёды гаварыў, што я маю схільнасць вучыць дзяцей.

***П: — Мы ведаем, што Вы вучыце адначасова польскай і беларускай мовам. Як Вы спалучаеце гэтыя дзве мовы?***

**ГК:** — Гэта атрымліваецца натуральна. Магчыма інакш было б, калі б я вучыла беларускай і адначасова рускай...

***П: — Ці любіце працаваць з моладдзю?***

**ГК:** — Так, таму што для мяне вялікая радасць, калі вучні хочуць нешта рабіць і карыстаюцца маімі парадамі як дарослай асобы, а не як настаўніка. Мяне цешыць, калі вучань хоча рабіць нешта дадаткова. Тады я гатова прысвяціць яму кожную сваю свабодную хвіліну.

***П: — Колькі гадоў Вы працуеце ў школе ў Нараўцы?***

**ГК:** — У школе ў Нараўцы я працую ўжо 24 гады.

***П: — Ці Вы памянялі метады працы на працягу гэтых усіх гадоў?***

**ГК:** — Я думаю, што так, таму што калі дваццаць гадоў таму вучань быў непаслухмяны, то яго ставілі „ў куток", цяпер дастаткова звярнуць увагу.

***П: — Ці праца ў школе гэта для Вас пакаранне ці прыемнасць?***

**ГК:** — Калі б гэта было пакаранне, я не працавала б у школе. Думаю, што праца настаўніка для мяне адпаведная. Я адчуваю вялікае задавальненне, калі мае дзеці вырастаюць на добрых, разумных людзей.

***П: — Дзякуем за размову і азнаямленне з гмінай Нараўка.***

**ГК:** — Я таксама дзякую.



Фота Ганны Кандрацюк



Фота Ганны Кандрацюк

# У школе ў Нараўцы

У Нараўчанскую школу мы паехалі на возе, які цягнуў трактар. Па дарозе мінулі вёскі Новае Ляўкова і Плянту, пасля ехалі лесам. Па дарозе мы спявалі беларускія песні. Найлепш нам атрымалася „Купалінка" і „Там у полі два дубочкі". У школе прывітала нас настаўніца беларускай мовы Ганна Кандрацюк. Яна са сваімі вучнямі падрыхтавала нам конкурс ведаў пра Нараўчанскую гміну. Трэба было адказаць як называецца войт гміны, у якім Ляўкове знаходзіцца керамічная фабрыка або як называецца мясцовае вадасховішча. Пасля са школай знаёміла нас пані дырэктар Ліля Тарасевіч. Яна расказала пра сваю школу, паказала нам многа класаў і гімнастычныя залы. На канец мы зрабілі супольны здымак. Экскурсія была вельмі цікавая і яна заўсёды будзе ў маёй памяці.

**Куба Ваўранюк,**
*„Наша Суполка", IV клас КПШ у Нарве (інфармацыя вылучаная „Зоркай").*



Фота Ганны Кандрацюк

## Вершы Віктара Шведа

### Чаму ты ленаваўся, татка?

Тата пачуў пытанне сына:
— Чаму не маеш ты машыны?
— Калі не будзеш ленавацца,
Будзеш любіць навуку, працу.

Тады напэўна, мілы сыну,
Купіш сабе аўтамашыну.
Запытаў татульку Коля:
— Чаму ты ленаваўся ў школе?

### Без патрэбы скінулі з неба

Надта крыклівае дзіцятка,
Збіваецца з сіл яго матка.
Запытвае матулю Ваня:
— Ці майго брата прынёс анёл?

— Так, гэта праўда, мілы сынку,
Хоць мучуся з ім безупынку.
— Дык дзівавацца тут не трэба,
Што пазбыліся яго з неба.

# Ці сапраўды яны горшыя?

Ведаем, што яўрэі ў вачах нашых людзей лічыліся горшымі. Нашы людзі жылі на сваёй зямлі і таму адчувалі маральную перавагу. Я не разумею гэтага, — усе людзі аднолькавыя.

Праўда, яўрэяў лічылі разумным і працавітым народам, у іх быў талент да гандлю.

Можа перашкаджала іх самастойнасць, гаспадарлівасць?

Чаму іх так моцна ненавідзелі фашысты? Перад Другой сусветнай вайной у Нараўцы яўрэі складалі амаль палову ўсіх жыхароў. Падобна было ў Бельску, Беластоку. Пасля вайны яны раптам зніклі. Аб гэтым сумным працэсе распавяла нам спадарыня Кася Бяляўская, якая шмат ведае пра мінулае свайго мястэчка. Мы даведаліся, што ў 1941 годзе немцы, калі ўвайшлі ў Нараўку, забілі ўсіх яўрэйскіх мужчын ад 16 года жыцця. Жанчын


Фота Ганны Кандрацюк

і дзяцей вывезлі ў канцлагер і ніхто з іх не астаўся ў жывых. Так было ў многіх мястэчках і гарадах. Паводле мяне, гісторыя яўрэяў вартая вывучэння. Аднак, нават у сённяшні дзень, нашы людзі не хочуць пра іх гаварыць, думаць. Асабліва маладыя тут проста ганарацца сваёй нецярпімасцю і варожасцю да яўрэяў!

І трэба з гэтым нешта зрабіць. Многія яўрэі былі адукаванымі, светлымі людзьмі. Ад іх заўсёды мы многа „пазычалі”, многаму вучыліся. Іх лёс заўсёды быў цяжкі, цягам стагоддзяў іх праследавалі і каралі. Думаю, што нам трэба памяняць падыход, адкрыцца на іншых, зразумець іх. Разумны чалавек гэта той, які пабач прыкмячае іншых. Кожны чалавек важны ў свеце. Няважна, хто ён: яўрэй, паляк ці беларус. У бок яўрэяў мы павінны пахіліцца і таму, што яны выдатна паспрыялі ў цывілізацыйным развіцці.

**Аляксандра Варшыцкая,**
*„Учора, сёння, заўтра”,*
*ІІ клас гімназіі КШ з ДНБМ*
*у Бельску-Падляшскім*

# Я іду

Іду я ў лес,
а там
стаіць зубр
і глядзіць на мяне.
Я не саступаю
са сваёй дарогі.
Паварочваю ў гушчэчу
і бачу
магутны дуб.
На высокай сасне
вялікая сям'я вавёрак.
Я пачынаю думаць
пра свой дом
і сваіх бацькоў.
Баюся, каб не было
як у чорным сне,
калі прыходзіш дамоў,
а там адны магілы.
Чаму так часта
забываемся пра свае карані?
Каб я забыў,
то астаўся б адзін як палец.
І я заплакаў —
не ведаў як жыць сярод чужых.

Крыстыян Паскробка,
*„Учора, сёння, заўтра”, IV клас КПШ у Нарве*

# Музыка з кайфам

### Гаворыць *карагод*

„*Карагод*” сёння з'яўляецца выдатнай назвай для народных калектываў ці ансамбляў (як часцей называюць іх у Беларусі). Чаму? А паспрабуйце выклікаць у думках асацыяцыі са словам „*карагод*”: рух, спеў, колер, усё мае сваё адлюстраванне ў прэзентаствах такіх як „Там по маёвуй росі”, якое ў трэці ладзіць аб'яднанне Музей малой айчыны ў Студзіводах, прыязджаюць не толькі спевакі. Тут можна пачуць скрыпку, дуду ды іншыя інструменты, а праз вёскі і гмінныя пасёлкі ідуць каляровыя *карагоды*,


http://www.gants-region.info


Фота Ганны Кандрацюк

цыях буйных калектываў, але, праўду кажучы, свае крыніцы мае на лугах і дарогах, не на сцэне.

У культуры нашых продкаў *карагоды* з'яўляліся неабходным элементам, асабліва гэту традыцыю працягвалі тыя, што займаліся земляробчымі працамі. Бо ўсе спевы, танцы ці менавіта карагоды вязаліся з рытмам года (календара) і працы. Некаторыя мяркуюць, што гісторыя гэтага віду народнага мастацтва сягае яшчэ першага тысячагоддзя нашай эры і няма, здаецца, прычыны, па якой трэба было б гэта абвяргаць — гэта проста старая і вельмі беларуская традыцыя.

Гэтая традыцыя нечакана вяртаецца на вуліцы Падляшша. Разам з развіццём зацікаўлення спеўнай спадчынай нашых продкаў, пайшла цікаўнасць да танцаў і інструментальных акампанементаў. У час мерапрыемстваў у якія прыцягваюць мясцовых жыхароў. Гэта стала ўжо такім натуральным, што чалавеку не прыходзіла ў галаву, каб пра гэта нават пісаць. Ды чарговае натхненне прыйшло да мяне, калі пабачыла я ў праграме тэатральнага вандроўнага фестывалю „Вертэп” майстар-класы па вадзэнню *карагодаў*. *Карагод* мае шмат супольнага з вандраваннем, таму ўжо з першых выпускаў фестывалю глядачы сустракаліся з парадамі, зараз арганізатары пайшлі далей: пашукалі інспірацыі ў мясцовай народнай культуры, якая можа выдатна суіснаваць з сучасным тэатральным мастацтвам. Вядома, *карагод* таксама ўключае элементы тэатральнай імправізацыі, тым больш варта чакаць, калі ўзнікнуць пастаноўкі, у якіх *карагод* стане элементам размовы з глядачом, стане сродкам мастацкай камунікацыі.

i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 33

Запоўніце клеткі беларускімі славамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў, дашліце ў „Зорку”. Тут разыйграем цікавыя ўзнагароды. Адказ на крыжаванку н-р28: Лозунг: Калыска.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Mama | | Marzenie | | Polano | Pępek | | | Podagra |
| | | | Rzepak | | | | Bierz | |
| Tam / Marzenie | | | | | Ikona | Kopa | | |
| | | | | | | | | |
| Koralik / Dwa | Opieka | | | | | | | |
| | Alek | Snop | | | | | | |
| | Mi | | Dziki osioł | | | | | |
| | | | | | | | | |



■ Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Новая Воля дапамогі

— А, гэта вы, той Павел Грабоўскі, што вядзе госпіс у Новай Волі! — вітаюцца мае сябры са сціплым і сімпатычным чалавекам не ў лекарскім адзенні, у якім яго я бачыла ў Беластоцкім анкалагічным цэнтры. Гэта доктар медыцынскіх навук, спецыяліст між іншым па хірургіі твару і паліятыўнай медыцыне. У Беластоку ён працуе паўгода, а ад двух гадоў разам з бацюшкам Яраславам Шчэрбачам барукаецца са справай госпісу ў Новай Волі. — А што вы тут робіце на Беласточчыне?

— Скіт свой будую ў Кабылянцы. I вывучаю беларускую мову, — усміхаецца доктар Грабоўскі, старшыня Фонду „Падляшскі анкалагічны госпіс". — А цяпер на маёй галаве славуты міжнародны бег. Фонд арганізуе розныя дабрачынныя мерапрыемствы. Неўзабаве, 18 жніўня, пачнецца ў наваколлі Міхалова паўмарафон.

Гісторыя „бегу"

## Паўла Грабоўскага на Падляшша

сама па сабе вельмі цікавая. Адкуль ён тут узяўся?

— Я сам сабе стаўлю гэтае пытанне. Было гэта так. Я вывучыў першую сваю спецыялізацыю — хірургію шыі і галавы. Працаваў цэлыя гады ў анкалагічнай клініцы з хворымі пухлінамі гэтага абшару арганізма. Я бачыў, як шмат хворых не ўдаецца ўратаваць, што не значыць, што нічога не ўдасца зрабіць. I каб даведацца, што можна зрабіць, зрабіў я спецыялізацыю па паліятыўнай медыцыне. Гэта такая галіна медыцыны, якая шырока трактуе пацыента, важна яго сям'я, ягоная гісторыя. Для лекара-гуманіста гэта выклік не абы-які, каб магчы стаць перад такім абсягам падыходу да хворага. Я родам з Кракава, там кончыў свае штудыі, — спачатку стаматалогію, пасля медыцыну, пасля былі спецыялізацыі, працаваў у клініцы сківічна-тварнай хірургіі, пасля больш за дзесяць гадоў жыў і працаваў у Варшаве і з таго часу езджу на Падляшша. I падумаў я, чаму маіх ведаў па паліятыўнай медыцыне не выкарыстаць тут. Мае сябры з Варшавы, якія маюць сем'і, дамы, хочуць гэта зрабіць у вялікім горадзе, каб мець шанцы, якія дае вялікі горад. Я — адзін і падумаў, што магу гэта зрабіць там, дзе ніхто са здаровым розумам не хацеў бы адкрыць госпіс. Бо ўсюды далёка. I ўдалося. Я раней не думаў, што тут застануся надаўжэй, стану жыць. Я закахаўся ў духоўнасці Падляшша.



Што мяне так сюды прыцягнула? Я яшчэ на этапе закахання рэгіёнам, спытайцеся ў мяне праз нейкія два гады, — тады халаднакроўна адкажу... Месца Новя Воля — не „адлюднае", можа крыху адлеглае ад Беластока. Калі я рашыў займацца паліятыўнай медыцынай, рашыўся зрабіць штудыі па кіраванні няўрадавымі ўстановамі. Для мяне, доктара, была простая справа як прапісаць нейкі лек, прадпісаць медыцынскую працэдуру, але як заснаваць фонд і ім кіраваць — было гэта для мяне цяжкім для ахаплення. Дыпломнай працай па гэтай спецыялізацыі была ацэнка патрэб паліятыўнай апекі ў рэгіёне, у якім я ад пару добрых гадоў закаханы па вушы. Аказалася, што Беластоцкі павет, аж пад мяжу з Беларуссю — гэта такая белая пляма. Працуюць тры госпісы ў Беластоку, запэўніваюць паліятыўную апеку ў павеце, але даехаць ужо не так проста, калі кошт даезду большы, чым лекар ці медсястра можа атрымаць ганарару за візіт. Прыехаў я ў Новую Волю першы раз летам 2009 года. Мы маем сядзібу ў Новай Волі, Міхалоўскай гміны, Беластоцкага павета. Там,

## у будынку па былой школе

які гміна спачатку перадала праваслаўнаму прыходу, а ён аддаў нам, фонду, у карыстанне на трыццаць гадоў, рашылі мы заснаваць сядзібу фонду і госпіс. Спачатку мы думалі, што ўзнікне там стацыянар, але калі аказалася, што сродкі на той стацыянарны госпіс патрэбныя такія агромныя, што за тое самае можна было б выбудаваць асобнае крыло будынка, на новым фундаменце, з новымі мурамі, інсталяцыямі, і мы не ў змозе гэтага зрабіць. Мусілі мы разгледзецца за чымсьці іншым. I айцец Яраслаў Шчэрбач, віцэ-старшыня фонду, настаяцель Нававольскага прыхода, пасля каляды сказаў мне, што ёсць тут шмат асоб з фізічнымі абмежаваннямі па хатах, якіх ніхто не паказвае. Дасканалай задумай былі майстар-класы па працатэрапіі. Трыццаць асоб знайшло ў нас месца, дзе яны прыгожыя, творчыя, вучацца розных рэчаў, ездзяць на конкурсы, на якіх вельмі часта бяруць прызы, а 14 асоб у рэгіёне, дзе так цяжка з працай, знайшло ў нас занятак на майстар-класах. Перамагла задума хатняга госпісу. Я пазнаў гэты рэгіён, дзе вельмі моцныя сямейныя сувязі, дзе людзі не хочуць, каб іхныя блізкія былі па-за домам. I такая думка, што запэўнім апеку ў іх дамах, дзе да хворага будзе даязджаць лекар, медсястра, дзе будзе рэабілітант у выпадку патрэбы, псіхолаг, апека духоўнай асобы, — бо так разумеем пакуту, бо гэта

## не толькі сам боль

і сам лекар з таблеткамі не ўзмозе тут памагчы. Паліятыўная апека гэта не толькі медычныя ўмеласці, ды і шырока разуметая духоўнасць. Узніклі мы з канцом 2009 года. Першы натарыяльны акт, рэгламент, арганізацыйныя справы. Управа і рада фонду: Павел Грабоўскі, Яраслаў Шчэрбач, Малгажата Паўлючук, Марцін Віснеўскі, Моніка Цыдзік, Анатоль Панасюк. Мэта фонду: усе дзеянні дзеля годнага жыцця ў хваробе і годнага памірання, арганізаванне і надзялянне комплекснай апекі, між іншым медыцынскай, духоўнай, псіхалагічнай, сацыяльнай дарослым асобам у тэрмінальнай стадыі хваробы, асабліва ракавай, ды невылечна хворым у дамах. Надзялянне дапамогі сем'ям і абучанне іх выконванню апекі над хворым у выходнай стадыі хваробы, застаючыміся дома і ў госпісе. Падтрымка сем'ям асірочаным і хворым. Адукацыя лакальнай грамадскасці, хворых і іх сем'яў, навучанне ідэі госпіснай апекі і павагі для жыцця. У мінулым годзе восенню рушылі тыя майстар-класы. Увесь час прымерваліся мы да заснавання госпісу, думалі, што ўдасца закантрактаваць паслугі ў Нацыянальным фондзе здароўя, ды не ўдалося. У той час, калі мы чакалі і разважалі, памерла каля пяці чакаючых асоб. I мы ва ўправе рашылі, што не будзем чакаць ці нас хтосьці будзе дафінансоўваць, ці не. Што маем у сабе настолькі сілы і ўпартасці, што рушым без кантракта. I рушылі ад 1 чэрвеня. Маем трох падапечных, і думаем, што будзе іх штораз больш. Займаемся хворымі, утрымліваючыся з дароў ад спонсараў. Мы — грамадская, карысная арганізацыя, і памаленьку ўплывае нам

## 1 працэнт

ад падаткаў за мінулы год. 1 працэнт ад падатку на госпіс у Новай Волі: KRS 0000328837 Hospicjum Nowej Woli. Думаю, што за гэта ўдасца нам функцыянаваць пару месяцаў. I спадзяемся не страціць гэтага статусу на наступны год. Пакуль ахвотна бачым акцыйных валанцёраў, як пры падляшскім веласіпедным рэйдзе „Hospicjum dla życia" ці паўмарафоне. Пасля будзем абучаць прафесійна тых, хто будзе хадзіць да хворых.

Перад намі першы дабрачынны падляшскі паўмарафон. Хочам сарганізаваць у той час сямейны пікнік, рэгіянальны пачастунак ды мастацкую частку. Заспяваюць між ішым „Прымакі", залучанская „Калінка". А будуць бегчы нават бегуны ў зброі спартанцаў.

— Я бачу ва ўсім гэтым Божую руку, — кажа айцец Яраслаў Шчэрбач. — Спачатку абмяркоўваў я з епіскапам Іакавам як выкарыстаць будынак школы. Праз пару дзён уладыка паехаў у Варшаву на заняткі са студэнтамі Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі. Калі ўвайшоў ён на вучэльню, сустрэў яго незнаёмы. Прадставіўся епіскапу і сказаў, што хоча на Падляшшы памагаць найбольш хворым. Уладыка адказаў Паўлу Грабоўскаму з анкалагічнага цэнтра ў Варшаве, што ўжо чакае яго духоўны, які можа з ім арганізаваць госпіс. Паказаў на карту: 40 кіламетраў ад Беластока, тут скрыжаванне дарог, царква, прыхадскі дом, школа. Доктар Грабоўскі зацікавіўся праваслаўем і Падляшшам галоўным чынам праз кантакт з а. Генрыкам Папроцкім. Пераклаў, будучы на стыпендыі ў Парыжы, апошнія роздумы містычных лістоў Сяргея Булгакава, напісаныя ім перад смерцю ад рака. Піша ён таксама вершы і п'есы, якія ставяцца ў тэатрах. Адна з яго п'ес, пра СНІД, перакладзена на беларускую мову.

Апекай госпіс ахапляе Міхалоўскую, Гарадоцкую, Нарваўскую, Нараўчанскую і Заблудаўскую гміны. Хто можа карыстацца майстар-класамі? Кожны, хто кончыў 16 гадоў і мае вызначаны ўзровень інваліднасці. Штодзённа ў майстаркласах удзельнічаюць 30 чалавек, якія прывозяцца і развозяцца бусікам для перавозу асоб з абмежаваннямі, атрыманым у дары з Нямеччыны.

Доктар Павел купіў кавалак зямлі ў Кабылянцы, зараз за Новай Воляй. Меў быць вялікі ўчастак і хатка. Сёлета ў студзені здаў у найм сваю кватэру ў Варшаве, адмовіўся ад працы ў варшаўскім цэнтры анкалогіі. Перасяліўся ў Беласток.

— Калі б католіку дык не прадаў бы гэтага кавалка зямлі, — прызнаўся гаспадар-кабылянец. А айцец Яраслаў штурхнуў доктара. — Але вы наш.

■ Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Гродзіск і Рогаў

Мясцовасцей, якіх назвы выводзяцца з даўняга іх мінулага, з таго часу, калі там фармаваліся першапачатковыя грамадскія цэнтры — гарадзішчы, маем на Падляшшы некалькі. Нядаўна была на гэтых старонках гаворка пра Гродзіск, гмінную мясцовасць у Сямятыцкім павеце, а зараз хачу скіраваць аспект на іншы Гродзіск, які знаходзіцца на заходніх абмежках гістарычнага Падляшша, у Саколаўскім павеце цяперашняга Мазавецкага ваяводства, каля дзесяці кіламетраў на поўнач ад згаданага павятовага цэнтра. Парафіяльная гэтая вёска мае за сабою, як падказвае яе назва, цікавае мінулае.



Касцёл у Гродзіску

У вобрубе гэтага Гродзіска і суседняй з ім вёскі Невядома, на ўсходнім беразе рэчкі Цэтыні знаходзіцца сярэдневяковае гарадзішча. У той час, сотні гадоў таму, існавала там паселішча, якога жыхары займаліся комплексным гаспадараннем, г.зн. карысталіся яны не толькі дарамі лясоў і вадаёмаў, але таксама абраблялі зямлю ды самі выконвалі найбольш неабходныя для тадышняга іхняга жыцця прылады. На правым беразе Цэтыні была ўзведзена крэпасць, у якой маглі знайсці прытулак навакольныя жыхары. А рэгіён гэты быў у раннім сярэднявеччы неспакойны, у адсутнасць стабільных дзяржаўных структур валачыліся там разнамасныя, як бы на сённяшнім патрыятычнейшым сленгу назваўшы — „выклятыя рыцары” з розных напрамкаў навакольнага свету. Таму і ўмацаванні невядомска-гродзіскага гарадзішча былі салідныя — абарончыя валы, як сёння мяркуецца, мелі ў аснове чатыры метры шырыні, да таго ж былі яны ўзмоцнены драўлянымі і каменнымі элементамі. У іх некалькі пластоў, што сведчыць пра адбудоўванне і разбудоўванне пасля знішчэння. А было там што грабіць...

Па выніках раскопак гарадзішча і адкрытых пасяленняў, якія там праводзіліся на працягу стагоддзя — ад 1870-х да 1970-х гадоў, — можна меркаваць, што была там — недзе ў перыяд ад VII да XI стагоддзя — гандлёвая факторыя або нейкае аддзяленне драгічынскіх гандлёвых складаў на шляху з Цэнтральнай Азіі ў ганзейскія гарады, а ў мясцовым маштабе з Драгічына ў Ліў. Пра гэта сведчаць знойдзеныя ў час раскопак прадметы, характэрныя для ўсходніх славян. Таксама ўскрытыя пахаванні паказваюць на іх прыналежнасць да ўсходнеславянскага культурнага абшару. Былі там знойдзены таксама рымскія манеты эпохі Юлія Цэзара.



Касцёл у Рогаве

На схіле сярэднявечча сітуацыя ў нашым рэгіёне стабілізуецца. Знікаюць яцвягі, скораны крыжаносцы, задыхнуліся мангольскія наезды. Узнікаюць умовы для спакайнейшага жыцця, для мірнага насялення. Крупінка свету вакол Драгічына, якая атрымала назву Падляшша, апынаецца пад стабільным уладараннем літоўскіх князёў. Гродзіскае гарадзішча траціць сваё значэнне, бо і мяняюцца шляхі зносін з навакольным светам, праходзячы іншымі маршрутамі. І крапасныя ўмацаванні становяцца рэліктам, які паволі паддаецца эрозіі і забыццю, а людзі, у тым ліку і вонкавыя асаднікі, перасяляюцца ў адкрытыя мясцовасці.

Вытрымкі з афіцыйнага партала Драгічынскай дыяцэзіі: „W 1463 roku mieszkańcami wsi, zwanej wówczas Grodzysko, byli Rusini. W 1530 roku wieś była określana jako Horodzisko i należała do starostwa drohickiego. Pierwsze wzmianki o istnieniu parafii obrządku wschodniego (unickiej) pw. św. Michała Archanioła w Grodzisku sięgają 1604 r. Patronat nad parafią sprawowali wówczas biskupi płoccy. Katolicy obrządku unickiego należeli do parafii w Niecieczy, a wyznawcy obrządku łacińskiego do parafii Zembrów.” Аўтар апошняга сказа мабыць забыўся пра цэлібат, а пры нагодзе грэшных летуценняў і пра ранейшы сказ, бо да парафіі ў Няцечы належалі толькі вернікі лацінскага абраду. Для дыверсіфікацыі звестак пра мінулае Гродзіска пакарыстаюся іншым парталам — skarbiecmazowiecki.pl: „X-XII w. — Istnienie grodu na granicy obecnych wsi Grodzisk i Niewiadoma; 1. ćw. XV w. — Najstarsza zachowana wzmianka o wsi; 1569 r. — Zygmunt August nadał Grodzisk na własność Mikołajowi Krzysztofowi Radziwiłłowi „Sierotce”; 1591-1604 r. — Mikołaj Radziwiłł sprzedał włość grodecko-grodziską biskupowi płockiemu Wojciechowi Baranowskiemu [такі гэта быў „patronat”]; 1604 r. — Najstarsza zachowana wzmianka o tutejszej unickiej cerkwi parafialnej; 1778 r. — Budowa obecnie istniejącej świątyni jako cerkwi unickiej; 1852 r. — Gruntowny remont cerkwi.” Вяртаюся да партала drohiczyn.opoka.org.pl: „W czasie prześladowań unii przez władze carskie parafianie grodziscy razem ze swoim duszpasterzem ks. Ignacym Bukowickim (prob. 1853-1867) wiernie i bohatersko trwali w jedności z Kościołem Katolickim. Niektórzy ponieśli śmierć męczeńską, a księdza proboszcza i niektórych parafian w 1867 roku osadzono w więzieniu w Siedlcach. Od 27 sierpnia do 29 października tegoż roku parafianie musieli wyżywić ok. 200 kozaków z końmi. W lutym 1875 roku 400-osobowy oddział płk Dewela ponownie najechał parafię w Grodzisku, grabiąc żywność i maltretując ludność. W czasie kasaty unii w 1875 roku kościół został zamieniony na cerkiew prawosławną. W 1915 roku kościół został zwrócony na nowo katolikom.”

Гродзіская царква была пад прызваннем арханёла Міхаіла, касцёл жа стаў пад прызванне Святой Тройцы. І яшчэ цытата з апошняй манаграфіі Саколава-Падляшскага пра касцёл у Гродзіску (607 стар.): „W prawym ołtarzu umieszczono obraz Matki Bożej Częstochowskiej zasłaniany obrazem Matki Bożej z Dzieciątkiem, na odwrocie którego widnieje napis: *na pamiątkę i podziękowanie Panu Bogu, że nam Moskale nie zdołali odebrać naszej wiary świętej, obraz ten ufundowali Onufry Filipczuk z żoną 1920.*”



Інтэр’ер касцёла ў Рогаве

Заглянуў я на гродзіскія могілкі. Няма там ніякіх ні ўніяцкіх, ні праваслаўных рэліктаў. Затое тамашняя анамастыка пацвярджае ўсходнія рысы мясцовага мінулага: амаль палова намагільных прозвішчаў — „тутэйшыя”. На шматлікіх метках з нумарамі дамоў прозвішчы іх уласнікаў; на солтысавай хаце прозвішча *Siemieniuk*. А вось на могілках у вельмі суседняй Няцечы амаль усе прозвішчы „нетутэйшыя”; даволі частае ў іх ліку *Wierzbicki*...

І яшчэ вытрымка з драгічынскага партала пра пачаткі парафіі ў Няцечы: „We środę, czyli w święto Oczyszczenia NMP 1457 r. Stanisław Niecieck h. Gozdawa, dziedzic Niecieczy i Wirowa (1447), razem z neofitami [падкр. А.В.] — rodzonymi braćmi Janem (Iwaskone) i Stanisławem Hrynkami (Hrynkone) z Wirowa, ufundowali tutaj pierwszą, drewnianą kaplicę pw. Jezusa Chrystusa, Panny Najświętszej Maryi Dziewicy, św. Doroty, nadając jej dziesięciny z własnych wsi.”

Няцеча аддалена ад Гродзіска на тры кіламетры. У шасці кіламетрах ад Няцечы і ў стольких жа ад Саколава знаходзіцца вёска Рогаў. Прыкасцельны стэнд: „Wieś powstała na terenie Wielkiego Księstwa Litewskiego. Najstarsza o niej wzmianka pochodzi z 1388 r. Dokument z 1415 r. wymienia Rogów wśród wsi płacących dziesięcinę dla kościoła w Sokołowie. W 1546 r. ówczesna właścicielka Rogowa, córka kniazia Romana Druckiego-Lubeckiego, Anna uposażyła tutejszą cerkiew pw. św. Dymitra w trzy włóki ziemi i wystarała się o utworzenie parafii. Świątynia ta powstała zapewne w XV w., ale nie zachowały się świadczące o tym dokumenty.” Княжна Анна напісала ў фондавым акце: „... кому будетъ потребѣ того ведати: который храмъ стого мчнка Дмитрея з давных часовъ ест соружон в ымени моемъ через подданых моих людей отчизных Роговских. За надане мое повинен будет щеник службу Божю мети в пяток за муку Христову, а предся водлуг стародавного обычаю маетъ обедне служити в суботу за впокой, а в неделю заздравное. Естлиж бы кто хотелъ тое мое надане рушати, тот ся со мною розсудит на одном страшном суде пред Небесным Царемъ.”

Стэнд далей: „W 1815 r. generał major wojsk koronnych i starosta mielnicki Adam Szydłowski herbu Lubicz wraz z żoną, Wiktorią z Kuczyńskich, ufundowali nową drewnianą cerkiew unicką. Świątynia ta istnieje do dziś. Zmiana cerkwi na prawosławną przeprowadzona przez władze carskie siłą w 1875 r. przyniosła ofiary wśród wiernych. Dwie kobiety broniące cerkwi zostały zakatowane na śmierć, a dwie inne osoby wywieziono na Sybir. Księdza Teodora Telakowskiego (1840-1895), ówczesnego proboszcza wydalono do Galicji. W grudniu 1918 r. biskup siedlecki ks. Henryk Przeździecki przekazał świątynię rzymskim katolikom, a w maju 1919 r. wznowił tu istnienie parafii katolickiej, ale w obrządku łacińskim.” І з-пад нябеснай апекі святога Дзмітрыя царква была перададзена пад апеку святой Анны.

Зноў стэнд: „Dwudzielna świątynia w Rogowie jest orientowana (prezbiterium zwrócone jest ku wschodowi), o konstrukcji zrębowej (ściany składają się z ułożonych poziomo belek łączonych w narożach). Nawę główną oddzielają od naw bocznych dwie pary słupów. Przykryciem naw jest wspólny strop płaski. Nad wschodnią częścią nawy rozpięto pozorną kopułę ośmiopołaciową, zwieńczoną ośmioboczną przeszkloną latarnią (małą nadbudową z oknami). Prezbiterium, węższe od nawy, ma po bokach zakrystię i skarbczyk. Wszystkie części świątyni tak połączono, że posiada ona prostopadłościenną bryłę nakrytą wspólnym trójpołaciowym dachem.” Зараз касцёл у Рогаве праходзіць грунтоўны вонкавы рамонт. Перакрываецца ён новым дахам, прыгатаваныя для падмены падрубы амаль двухсотгадовай даўнасці.

Манаграфія *Sokołów Podlaski*: „Na podstawie zachowanych budowli można stwierdzić, że swymi prostokątnymi planami, bezwieżowymi fasadami i prosto zamkniętymi prezbiteriami odróżniają się one [byłe cerkwie unickie] zarówno od cerkwi środkowego Podlasia, gdzie często spotykane są rzuty ośmioboczne (Grodzisk 1709, Orla 1797), dzwonnice wieńczące fasady (Pawły 1824) oraz wielobocznie zamknięte prezbiteria (Nowa Wola, koniec XVIII w., Łosinka 1779), ale również od cerkwi Podlasia południowego. W wyglądzie [tych] świątyń z okolic Sokołowa można za to dostrzec wyraźne inspiracje architekturą drewnianych kościołów tego regionu, których wydają się być mniejszymi i skromniejszymi kopiami. Powodem tego jest bliskie sąsiedztwo tych najbardziej wysuniętych na zachód ośrodków unickich ze zwartym zasięgiem mazowiecko-podlaskim kościołów łacińskich.”

# Мастак **Алесь Пушкін** „размаўляе” са сценамі храма ў СЫНКОВІЧАХ

Тэкст і фота Сяргея ЧЫГРЫНА

**Ад Слоніма да вёскі Сынковічы Зэльвенскага раёна 12 кіламетраў. Сюды з усяго свету спяшаюцца турысты, каб паглядзець храм абарончага тыпу — крэпасць-царкву XV стагоддзя.**

З народных паданняў вядома, што заклаў царкву вялікі князь Вітаўт. Але магчыма, яна з'явілася і раней. Так лічыць і сённяшні настаяцель царквы архангела Міхаіла ў Сынковічах айцец Арсеній, які пастаянна ўпарадкоўвае храм, капліцу, тэрыторыю вакол храма, а таксама добра вывучыў яго гісторыю.

Айцец Арсеній сцвярджае, што найбольш даследаваў сынковіцкую царкву святар Яўстафій Міхайлоўскі, які быў тут настаяцелем з 1871 да 1898 гадоў. Ён зрабіў царкоўную агароджу, званіцу, сам рамантаваў дах. На сценах храма Міхайлоўскі знайшоў надпісы, датаваныя XII, XIII і XIV стагоддзямі, а таксама два званы. На адным з іх было напісана: „Anno Domini 1460”. Між іншым ніколі званы не замаўляліся задоўга да будаўніцтва храма. Напрошваецца думка: храм у Сынковічах у час вылівання званоў ужо мусіў існаваць і, можа, не адзін дзесятак гадоў. Царква ў Сынковічах унікальная яшчэ і тым, што яна захавалася такою, якою была пабудавана, спалучаючы візантыйскую і заходнееўрапейскую традыцыі дойлідства.

За стагоддзі і дзесяцігоддзі шмат чаго было знішчана ў сынковіцкай царкве. А ў 1990-х гадах сцены ўнутры храма былі проста пафарбаваны ў светла-блакітны колер. Фарбаваліся і замазваліся сцены і ў іншы розны час. Разам з гэтым былі зафарбаваны і каштоўныя надпісы на сценах, фрэскі, малюнкі, партрэты. Усё гэта сёння трэба аднаўляць, граматна і культурна ачышчаць, рэстаўраваць.

Царква святога Міхаіла ў Сынковічах стаіць у глушы, у далечыні ад буйных гарадоў. Царква гэта — адзіны з існуючых помнікаў, які захаваў сваю аўтэнтычнасць, цнатлівасць, што і дазволіла яму стаць помнікам архітэктуры сусветнага значэння. Касметычныя рамонты, якія праводзіліся ў 1841 і 1881 гадах, істотна не змянілі знешняга аблічча помніка. У розныя часы помнік вывучалі даследчыкі архітэктуры А. Шышка-Богуш, М. Сакалоўскі, Г. Вераб'ёў, Ю. Зубрыцкі, І. Ядкоўскі, М. Шчакаціхін і іншыя. Цікавыя замалёўкі храма зрабіў у другой палове XIX стагоддзя беларускі краязнаўца і мастак В. Гразноў.





Сёння вядомы беларускі мастак Алесь Пушкін вырашыў дапамагчы храму.

25 ліпеня ў сынковіцкай царкве святога Міхаіла, пад кіраўніцтвам мастака Алеся Пушкіна пачаліся працы па раскрыцці роспісаў, замазаных алейнай фарбай. Ужо знойдзена некалькі надпісаў на грэчаскай мове. Іх пераклалі на рускую мову і прымацавалі на паперы да сцен побач з фрэскамі. З Пушкіным пачалі працу сем юнакоў і 75-гадовы пенсіянер. Усе яны атрымалі блаславенне айца Сергія, які служыць у гэтым храме. Настаяцеля храма айца Арсенія ў першыя дні працы рэстаўратараў не было, бо ён знаходзіцца ў адпачынку. Усёй справай кіруе ў сынковіцкай царкве айцец Сергій. Менавіта ён блаславіў усіх на працу, прачытаў малітву і пажадаў усім дабра і плёну.

Перад пачаткам рэстаўрацыйных работ мастак Алесь Пушкін адказаў на пытанні журналістаў і тых, хто цікавіўся гісторыяй і рэстаўрацыяй Сынковіцкай царквы. У прыватнасці, Алесь Пушкін адзначыў, што нават самы звычайны чалавек з вуліцы, які пачне ачышчаць фарбу, вядома, не паскрабе фрэскаў. Тэхналогія фрэскі палягае на ўпіванні фарбы ў тынкоўку, а алей мы папросту скрабем. Фрэску ніколі не саскрабем. Мы можам яе толькі адкрыць і замацаваць. І яшчэ можам трошачкі падняць яе колернасць, каб яна была бачная...

Рэстаўрацыя Сынковіцкага храма ў Беларусі Алесем Пушкіным выклікала неадназначныя думкі. Храм усё ж адзін з самых старажытных у Беларусі. Таму да яго рэстаўрацыі трэба адносіцца сур'ёзна, хаця вялікіх спецыялістаў па рэстаўрацыі храмаў у нас у Беларусі даволі мала. Тым не менш Алесь Пушкін журналістам упэўнена сказаў: „Я атрымаў прапанову ад святара Арсенія Ананкі яшчэ ў красавіку, калі прыехаў у Сынковічы першы раз. Я адрэстаўраваў два абразы. Ён мне паказаў дазвол на правядзенне навукова-даследчых прац, падпісаны намеснікам міністра культуры Беларусі Курашам, на ачыстку на пробы, каб даведацца, што ж знаходзіцца пад гэтай фарбай. Бо ў 1990 годзе, пасля 30 гадоў занядбання, калі ў храме захоўваліся садавіна і агароднiна, пасля таго, як храм перадалі вернікам, людзі купілі ў вясковай краме алейную фарбу, чырвоную і сінюю, і вельмі дабротна, сумленна пафарбавалі сцены і столь гэтай царквы. Прайшло 22 гады, і навуковы кіраўнік Генадзь Лаўрэцкі і настаяцель храма Арсень Ананка вырашылі ачысціць запрастольную частку храма, святая святых, і паглядзець, што ж там пад гэтай фарбай, на сцяне XV стагоддзя. Я месяц назад правёў першыя эксперыменты, прачысціў тры квадратныя метры рознымі распушчальнікамі, знайшоў маленькую палосачку арнаменту ўнізе. Потым паехаў да Ігара Чарняўскага, начальніка ўпраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Беларусі, і папрасіў дазволу і блаславення на правядзенне гэтых расчыстак. Ён дазвол даў. І цяпер я абавязаны гэтыя 120 квадратных метраў ачысціць...».

Два тыдні Алесь Пушкін будзе ў Сынковічах „размаўляць” са сценамі славутага храма. А мы будзем сачыць за яго працай і чакаць ад Алеся гістарычных адкрыццяў, якія захоўваюць гэтыя гістарычныя сцены храма.




# http://narodny.org

У Беларусі распачалася электаральная кампанія. Менавіта так — электаральная, бо тое, што афіцыйна называецца парламенцкімі выбарамі, мае далёкія да выбарчай кампаніі адносіны. І з большага з-за таго, што беларускі „парламент” насамрэч не мае аніякай рэальнай улады і, па сутнасці, з'яўляецца бутафорскай дэкарацыяй лукашэнкаўскага ўсеўладдзя.

Разам з тым палітыка — гэта мастацтва магчымага. І беларускія апазіцыйныя палітыкі, зноў падзяліўшыся на два лагеры, мяркуюць: які зрабіць выбар — байкатаваць даныя псеўдавыбары, альбо нейкім чынам у іх удзельнічаць? Адныімі з тых, хто схільны да нейкага так званага абмежаванага ўдзелу, то бок, зняцця кандыдатаў перад пачаткам галасавання, з'яўляецца старэйшая беларуская апазіцыйная партыя — Партыя Беларускага народнага фронту (БНФ).

Каб даведацца аб бачанні БНФ на надыходзячыя палітычныя і каляпалітычныя падзеі, варта зазірнуць на сайт партыі, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://narodny.org**. Дарэчы, восем гадоў таму, у нумары ад 4 красавіка 2004 года, „Ніва” ужо пісала аб сайце БНФ. Праўда, з таго часу змяніўся не толькі сайт, яго адрас, але і сам БНФ. Так, цяпер там зусім іншыя людзі на чале арганізацыі, зусім іншае іх стаўленне да палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

Новы сайт Беларускага народнага фронту выглядае вельмі прывабна. Уверсе над назвай сайта і арганізацыі месціцца своеасаблівае яе самавызначэнне — партыя абароны народных інтарэсаў.

Як раней, так і сёння галоўную пагрозу суверэнітэту Беларусі БНФ бачыць з боку Расіі. Менавіта таму пасярэдзіне сайта вялікімі літарамі ўпісаныя словы „Беларусь не Расія!” з гербам „Пагоняй” і перакрэсленым двухгаловым арлом. Гэтае выяўленне адразу кідаецца ў вочы, калі адкрываецца першая старонка сайта.

Як мае быць на сайце, што належыць палітычнай арганізацыі, ён змяшчае ўсе статутныя і праграмныя дакументы. Пра гэта напісана ў рубрыцы „Пра партыю”, выйсце на якую разам з іншымі месціцца толькі ўверсе цэлага выяўлення. Найбольш цікавым там падаецца „Праграма развіцця Партыі БНФ на пэрыяд 2009-2015 гг.”, дзе прынамсі адзначаецца, што „да 2015 году Партыя будзе ў стане ня толькі заяўляць пра нацыянальныя інтарэсы, але годна й эфэктыўна адстойваць іх палітычнымі сродкамі. Партыя БНФ будзе рэальнай палітычнай сілай з моцнымі арганізацыйнымі структурамі й істотнай падтрымкай у грамадзтве, будзе гатовая пры любой нагодзе, незалежна ад умоваў і абставінаў, рэальна змагацца за атрыманьне палітычнай улады ў краіне”. Для таго, каб усё гэта адбылося, кіраўніцтва арганізацыі мае намер правесці „патрэбныя перамены” ў партыі. „Мы не баімся сьмелых крокаў, таму мы прапаноўваем сапраўдныя перамены, а ня іх звыклую імітацыю з боку старой каманды”, — так кажуць БНФаўскія маладыя рэфарматары.

Кіраўніцтва БНФ „у тварах” — так можна было б абазначыць старонку „Лідэры”, якая распавядае пра старшыню партыі і трох яго намеснікаў. Дарэчы, адзін з іх, Рыгор Кастусёў, на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года выстаўляў сваю кандыдатуру.

Партыя БНФ мае арганізацыі ва ўсіх абласцях Беларусі. У рубрыцы „Рэгіёны” падаюцца кантактныя рэквізіты кіраўнікоў мясцовых суполак.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ Скарбы

## Друзгеніцкі зацішак

З развалам Савецкага саюзу беларусы пераважна набылі — акрамя гістарычнага шанцу на паўнавартасную дзяржаўнасць, гэта выявілася ў розных канкрэтных рэчах, найперш у тым, што людзі атрымалі свабоду. У тым ліку свабоду перамяшчэння праз межы. Але адзін кірунак усё ж амаль зачыніўся. Гэта тэрыторыя сённяшняй Літвы, куды патрапіць праз памежны шлагбаўм стала ўжо не так проста. Для многіх насельнікаў Гарадзеншчыны гэта сапраўдная страта. Дарога ў Друзгенікі ці Варэну была для іх у час СССР сапраўднай „дарогай жыцця” — сюды ехалі па сама смачныя прадукты харчавання — каўбасу, сыр, хлеб, халву і цукеркі, а таксама па чыстае паветра і адпачынак. Друзгенікі і Паланга былі ўлюбёнымі курортнымі месцамі беларусаў. Невыпадкова тут нават паўсталі адпаведныя санаторыі. А ўжо ў суверэнны для Летувы час пачалося сапраўднае развіццё турыстычнай інфраструктуры. Найбольш папулярным для гасцей у Друзгеніках сёння ёсць сучасны аквапарк, адзін з найбуйнейшых у Еўропе. Пабудаваныя і вельмі дарагія гатэлі, але ім суседнічаюць і сціплыя, дастаткова ўтульныя дамкі, дзе можна перананачаваць за невялікую плату.

Па-летувіску гарадок называецца Друскінінкай — назва цяжкая для нашага вымаўлення, таму ўсе беларусы і палякі паранейшаму называюць мястэчка Друскенікі альбо Друзгенікі. Тапонім тлумачыцца паходжаннем ад балцкага слова „druska”, што азначае „соль”. Мясцовыя крыніцы сапраўды надзвычай салёныя, а лекавыя якасці гэтай вады былі заўважаны яшчэ ў канцы семнаццатага стагоддзя, калі набыў ведамасць знахар Пранас Суруціс. Першая згадка пра Друзгенікі была знойдзена ў славутай Літоўскай метрыцы — яна датуецца 1563 годам. А статус курорта мястэчка атрымала ў 1793 годзе, калі асабістым лекарам караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага былі эксперыментальна пацверджаны гаючыя ўласцівасці мясцовых мінеральных водаў. Ціцалі іх і расейцы, як следства — у 1837-ым годзе цар Мікалай I абвесціў Друзгенікі горадам.

Друзгенікі — сталіца дзіўнага краю Дзукія, мястэчка альбо горад, у якім асаблівы спакой, цішыня і суладдзе. Яны надзвычай кансерватыўныя і не мяняюцца з гадамі, захоўваючы старыя драўляныя дамкі, у якіх месціцца шматлікія гатэльчыкі і кавярні. Здаецца, што з часу Пілсудскага, які вельмі тут любіў бываць і пераежджаў тут каханне, амаль нічога не змянілася. Ціхі нетаропкі аўтавакзал, люстраны спакой маляўнічага возера, шматлікія драўляныя і каменныя скульптуры. І чыстае паветра, якога няма нідзе больш у свеце. Праз мястэчка цячэ рэчка Ратніча ці Ротніча, на ўскрайку Друзгенікаў аднайменная вёска, дзе на мясцовых кладах магіла нашага фалькларыста Яна Чачота. У мястэчку царква, касцёл і дом-музей мастака Мікалаюса Чурлёніса.

Ад Гародні да Друзгенікаў усяго каля 40 кіламетраў, але гэтая дарога рэйсавым аўтобусам расцягваецца да дзвюх, а часам і трох гадзін. Здаецца, што па Нёмане хутчэй можна даплыць, але пакуль такая камунікацыя не практыкуецца. А ехаць на сваім аўтамабілі — гэта заўсёды латарэя: можна праскочыць хутка, а можна прастаяць у чарзе паўдня. Праз лес фактычна мяжы няма і збіраючы грыбы, можна выпадкова зайсці на тэрыторыю ўжо іншай дзяржавы. Навошта толькі прыдуманыя гэтыя межы — для сапраўдных бандытаў яны не перашкода, а вось нармальным людзям сур'ёзна замінаюць.

Людзі прыязджаюць у Друзгенікі каб адпачыць ад шуму вялікіх гарадоў, паправіць здароўе, задумацца пра існасць нашага быцця...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Стогадовы юбілей царквы ў Такарах

■ Уладзімір СІДАРУК

Царква іконы Багародзіцы „Усіх тужлівых радасці” была збудавана ў 1912 годзе на ўрочышчы „Катэрка”, у месцы вядомым народу пад назвай Святога месца. Храм скрываецца ў цяні дрымучага лесу ў два кіламетры за вёскай Такары (памежжа з Рэспублікай Беларусь). Гісторыя ўзнікнення культу і збудавання ў гэтым месцы царквы знаходзіць адлюстраванне ў прыхадскім летапісе. Адпаведна згаданай крыніцы і „Запіскам Іосіфа, мітрапаліта літоўскага” ад 1912 года, у народзе існуе вось такая легенда:



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

У трэці дзень Святой Тройцы 19 траўня 1852 года жыхарка Такароў Еўфрасінія Івашчук збірала на сенажаці шчавей. Нечакана, быццам з-пад зямлі, з'явілася перад ёю невядомая незвычайная жанчына. Незнаёмка гаварыла, што свята ўстаноўлена Богам таму, каб народ ішоў у царкву, а не займаўся працай. Дадала, што жыхары навакольных вёсак будуць пакараны моравым паветрам за свае грахі і нявернасць. Прадвяшчанне збылося ў 1855 годзе — успыхнула тут эпідэмія мору. Незнаёмка напанец загадала Еўфрасініі падаціца да мясцовага святара, каб з вернікамі прасіў Божай міласці і прабачэння. Жанчына, як нечакана з'явілася, у такі ж спосаб прапала з вачэй сялянкі. Еўфрасінія была пераканана, што з ёю размаўляла Богамаці. Для ўвекавечання з'яўлення Багародзіцы, духоўныя тут устанавілі крыж. Пасля яго перанеслі на могільнік. У ямцы з-пад крыжа выбілася крынічка...

Традыцыя пераймання легенды захавалася па сённяшні дзень. З ходам гадоў змяняліся лёсы храма. Пасля ІІ сусветнай вайны Такары былі рассечаны дзяржаўнай мяжой. Большая частка вёскі апынулася на беларускім баку. З польскага боку засталося некалькі гаспадарак і ўрочышча Катэрка з царквой на Святым месцы.

У пасляваенны час філіяльная царква атрымала ранг прыхадской. Было гэта 23 траўня 1948 года. Прыход у Такарах невялікі. Уключае тры вёскі: Такары, Вілінава і Клюкавічы. Сёлета вернікі такароўскага прыхода адзначалі стогадовы юбілей царквы і 160-годдзе з дня аб'яўлення Божай маці.

Раніца апошняй ліпеньскай нядзелі не паскупіла цеплыні і сонечнага прамення. На Святое месца ў Катэрку хлынулі пілігрымы з Сямятычскага, Гайнаўскага, Бельскага, а нават Беластоцкага паветаў. Я пакарыстаўся нагодай ветлівасці „Васілёчкаў” — заехалі яны па мяне ў Чаромху і мы разам падаліся ў Такары. Падарожжа доўжылася не больш трыццаці пяці хвілін.

На месца назначэння дабраліся мы чвэрць гадзіны да афіцыйнага часу прывітання мітрапаліта Савы. Пры пад'ездзе на Святое месца рухам кіравала парадкавая служба — пажарнікі і функцыянеры памежнай стражы ў святочных мундзірах. „Васілёчкам” дазволілі пад'ехаць пад царкву, затым загадалі шафёру вярнуцца з аўтобусам на стаянку. Побач дарогі прыватнікі расставілі латкі з цацкамі і смакоцэм.

Шыкоўнай дарожкай з „польбруку” падаюся ў бок прахадской брамы. Тут прыкмячаю інфармацыйныя пункты: гміны Мельнік з правага боку, з процілеглага — парадкавай службы. Прысеўшыся на лаўку, назіраю за хвалюючымся натоўпам паломнікаў. Спатыкаю тут даўнейшых калег па рабоце з Нурца і Сямятычаў, сяброўку з пачатковай школы Веру Рошчанка, якая пражывае ў Бельску і прыехала з паломніцкай пілігрымкай царкоўнага брацтва ды дзядулю Уладзіміра Клімюка з Плянты, сардэчнага майго прыяцеля з пяцідзесятых гадоў, заадно вернага чытача і сябра „Нівы”.

Дакладна ў 9:30 пачалося афіцыйнае прывітанне. Госця віталі войт Мельніцкай гміны Адам Табота і радны Вілінава Вітальд Тэрэбун. Пасля яго свяцейшасць Сава вітаўся з вернікамі і самадзейнікамі ў народных касцюмах, якія згуртаваліся паабапал дарожкі. Перш-наперш завёў гаворку з гуртом „Верасы” з Вілінава. Размова была жывая і сімпатычная — сведчылі аб гэтым усмешкі на тварах суразмоўцаў.

— О, бачу і беларусаў, — пачуўся голас яго свяцейшасці, калі апынуўся пры шпалеры шыкоўна рэкамендуючыхся „Васілёчкаў”. — Адкуль будзеце?...

— З Бельска-Падляшскага...

Цырымонія прывітання закончылася. У царкве пачалася святочная літургія. У гмінным інфармацыйным пункце можна было пакарыстацца інфармацыяй, купіць свечку ці шыкоўны альбом „Льтопись токарской приходской церкви”. Маю ўвагу прыцягнула шмат размешчаных пры храме драўляных крыжоў-помнікаў, сярод якіх вылучаўся навейшы велікан, узнесены ў гонар юбілею стагоддзя царквы. Зараз збоку знаходзіцца калодзеж. Паломнікі бралі адсюль аздараўляльную ваду. Прыслугоўвалі пры гэтым хлапец з дзяўчынай. Адны напаўнялі бутэлькі, іншыя папівалі з кубка, задавальняючы проста смагу. Бачыў я, як старэнькі дзядок паліваў ваду на рукі і абмываў твар. Папрасіў я ў дзяўчыны кубачак халоднай, крынічнай вадзіцы.

Набажэнства доўжылася да поўдня. Затым было шэсце крэснага ходу. Святочную літургію завяршала цырымонія адзначэння заслужаных для царвы вернікаў медалямі і ганаровымі граматамі.

*(працяг будзе)*

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — яўрэйскую пагаворку.

1. стрыжань механізма, які круціцца на апорах і перадае рух іншым яго элементам = 23 _ 24 _ 21 _;
2. схіл дня = 10 _ 11 _ 6 _ 7 _ 4 _;
3. адзінка сілы = 3 _ 5 _ 18 _ 9 _;
4. партнёрка Адама = 32 _ 34 _ 35 _;
5. антонім дабра = 28 _ 8 _ 19 _;
6. індзейцы Пэру, Балівіі і Эквадора ды іх мова = 12 _ 15 _ 13 _ 14 _ 16 _;
7. адзінка вымярэння = 30 _ 31 _ 26 _ 27 _;
8. вынік складання = 20 _ 2 _ 1 _ 25 _;
9. птушка з веерападобным чубам (*Upupa epops*) = 29 _ 33 _ 22 _ 17 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | 13 | 14 | 15 |
| | | | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | | | | | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |
| | | | | 33 | 34 | 35 |

**Адказ на адгаданку з 28 нумара**

Кругляк, аналой, акула, рада, міліцыя, Кіеў, Іспанія, мова, Ушуая, сера, хіліязм, Акінчыц, ю, дно, Чылі, воран, лыч, борць, арыя, Кіль, Казбек.

Рашэнне: **Каля кармушкі, імя якой улада, усе рохкаюць аднолькава: і чырвоныя, і белыя** (фраза Аляксандра Лукашэнкі).

Кніжную ўзнагароду высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін Вялікіх.

# 12.08 — 18.08

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш адважны, рашучы, лёгка пераканаеш іншых да сваіх задум. Ды 13-17.08. з-за няўвагі можаш нарабіць глупстваў, а з-за лішняй асцярожнасці страціць непаўторны шанц. У другой палове месяца будзеш шмат што рабіць, ды ўсё аформіш спраўна і з усмешкай. Але раўнамерна раскладвай сілы, каб не ўпасці перад мэтай.

**(21.04. — 21.05.)** 13-18.08. чакае цябе нялёгкі выклік; набірай сілы, каб з ім справіцца. Не рашай у адзіночку нічога важнага, у чым не з'яўляешся спецыялістам, асабліва ад серады. Чацвер — знакаміты час для набывання хатніх жывёл. У пятніцу не зрабі элементарнай памылкі ў сваіх службовых справах.

**(22.05. — 22.06.)** 10-14.08. атрымаеш вялікую прыбаўку сілы ад зорак, з другой паловы тыдня можаш падвяргнуцца рызыцы — пільнуйся асабліва з тым, што будзеш есці і не смажся замоцна на сонцы. Вельмі добра пільнуй цяпер кашалёк і кватэру! З 17.08. пачнецца ідэальны час на змены.

**(23.06. — 23.07.)** Возьмеш руль у свае рукі, нават калі ты не кіраўнік. Будзь вельмі асцярожны з вадою. З 12.08. ідэальны час, каб пазбыцца благіх прывычак, правесці важную размову; сілы і аргументаў хопіць! Усе змены пойдуць табе для дабра. 14-17.08. пазбягай рызыкі, асабліва фінансавай.

**(24.07. — 23.08.)** Ідзі за голасам сэрца і добра гуляй. Хопіць табе адвагі і рашучасці, зробіш уражанне на кімсьці падобным на сябе — непасрэдным, поўным жыцця. Ад лішку энергіі будзеш проста выбухаць! Вялікія ўдачы ў фінансах, але не расказвай зашмат, колькі і на што выдаеш і якія ў цябе ўплывы. У пятніцу будзь асабліва акуратны, пераходзячы дарогу.

**(24.08. — 23.09.)** Штосьці і хтосьці будзе моцна залежаць ад тваіх думак і задум. Не слухай угавораў і рабі так як выгадна табе. У панядзелак будзь уважлівы на вуліцы і каля вуліцы. У аўторак пачынай любыя справы. У сераду можаш падумаць аб змене рабочага месца. Збірай сілы на восень.

**(24.09. — 23.10.)** Узмоцніцца твая інтуіцыя. У палове месяца зможаш зрабіць значны крок у прафесійнай кар'еры. Твае рашэнні — стрэл у «дзясятку». 13-17.08. чакае цябе цяжкі выбар паміж працай і асабістым жыццём (што б ты не выбраў, будзеш шкадаваць). 14-18.08. магчымыя турботы і праблемы на рабоце; пазбягай недагаворак і няясных сітуацый.

**(24.10. — 22.11.)** Можаш закахацца без памяці! Аж да 23.08. зоркі памогуць табе дасягнуць кожную мэту. Павышэнне маеш як у банку! Ды з 13-17.08. будзеш ставіць перад іншымі нерэальныя патрабаванні. Спрэчкі з непрыхільнымі асобамі могуць яшчэ больш распаліцца. У пятніцу добра наведаць месцы і мерапрыемствы дзе будзе шмат людзей.

**(23.11. — 22.12.)** Не спакусяць цябе раманы і кароткахвілінныя прыгоды. Калі закахаешся, дык на амін, і на першай сустрэчы будзеш думаць аб шлюбе. Будзеш ахвярны для іншых. У кар'еры разлічвай толькі на сябе. Задбай больш чым заўсёды аб сваё здароўе. Трымайся здалёк ад непрыемных табе людзей.

**(23.12. — 20.01.)** Станеш для іншых аўтарытэтам і знойдзеш талковы выхад з кожнай сітуацыі. Задзівіш усіх спрытам і прадпрымальнасцю. Прыемныя хвіліны ў сям'і. Ды з 16.08. (да 20.08) могуць пачацца турботы ў каханні.

**(21.01. — 19.02.)** Апынешся ў цэнтры зацікаўлення. У кар'еры будзеш аколены адпаведнымі людзьмі. Цешся хвілінай і не думай пра тое што будзе. Тыдзень абяцае быць добрым у фінансавым плане. Асабліва справы назначаныя на чацвер пойдуць вельмі ўдала.

**(20.02. — 21.03.)** Настрой будзе лёгкі і вясёлы. Ды прытрапіцца вялікая магчымасць нарабіць памылак пад уплывам эмоцый і пачуццяў. Прыслухайся сваёй інтуіцыі — у яе ёсць што табе паведаміць. Дбай аб сэрца і дыхальныя шляхі. У сераду пойдуць на цябе арыгінальныя ідэі, азарэнні і прадбачанні.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Этнаграфічна-музычныя майстар-класы ў Студзіводах

Ужо дзевяты раз дзеткі і моладзь з Беласточчыны і Рэспублікі Беларусь спаткаліся на Беларускіх этнаграфічна-музычных майстар-класах «Лета з традыцыяй», якія адбыліся ў другой палове ліпеня ў Студзіводскім музеі і на полі Дарафея Фіёніка, старшыні аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», якое было арганізатарам мерапрыемства. Пад наглядам народных творцаў і апекуноў маладыя асобы вучыліся традыцыйнаму рукадзеллю, народным спевам, танцам і ўпершыню ігры на даўніх музычных інструментах — дудзе і скрыпцы.



— Вучоба рукадзеллю вельмі патрэбная для маладых асоб, асабліва дзяўчатам. Такіх заняткаў няма ў праграмах навучання ў школах. У бацькоў мала часу, каб вучыць дзетак ручным заняткам. Зараз мала хто ўмее займацца традыцыйным рукадзеллем. Нашыя дзяўчаты і хлопцы былі вельмі рады, калі выконвалі нешта сваімі рукамі. Зараз яны звыкліся сядзець за камп'ютарамі і займацца ў віртуальным свеце. Апрача здабывання ўмеласцей у час нашых майстар-класаў, якія абапіраліся на традыцыйныя ручныя заняткі, народныя спевы, танцы і народную музыку, дзеткі і моладзь інтэграваліся, вучыліся працаваць і жыць у групе. Інструктары звярталіся да іх на беларускай падляшскай гаворцы, беларускай літаратурнай, расійскай і польскай мовах. У час заняткаў некаторыя дзеткі пачалі выказвацца па-свойму, а тыя, якім перад прыездам да нас была абыякавай родная мова, зразумелі яе важнасць, значэнне нашых традыцый і культуры, — сказала музычны кіраўнік калектыву «Жэмэрва» Анна Фіёнік, якая вучыла маладых асоб народным спевам, танцам, тканню саламянай *маты* на кроснах і дбала пра арганізацыйныя справы.

Наведаў я Студзіводскі музей у час развітальнай сустрэчы, у ходзе якой арганізатары майстар-класаў і частка інструктараў спаткаліся з дзяцьмі і іх бацькамі, бабулямі, дзядулямі, каб падвесці вынікі супольнай працы і гульняў, якімі жылі іх малышы на працягу важнай для іх часткі канікул. Дзеці і іх апекуны наладзілі выстаўкі ручных прац у вясковай і мяшчанскай хатах Студзіводскага музея. На сталах і куфрах ляжалі лялькі, выцінанкі і іншыя вырабы з саломы, якія пасля дзеткі забралі дамоў, каб падарыць іх сваім блізкім або змясціць у сваёй калекцыі і паказваць знаёмым. Некаторыя дзяўчаты і хлопцы ўжо многа разоў пабывалі на студзіводскіх майстар-класах і збіраюць прадметы, якія выканалі ўручную. Старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік уручыў маладым асобам пасведчанні аб удзеле ў майстар-класах і кніжкі, між іншым, на нашай мове. Пахваліў ён удзельнікаў мерапрыемства за працавітасць, а інструктараў — за тое, што патрапілі заахвоціць дзетак і моладзь да інтэнсіўнай працы ўручную.

— Усё было цікавым у час заняткаў. Мне спадабаліся народныя танцы і спяванне. З саломы я рабіла вянок, збаночак, супольна выконвалі мы павука, — заявіла Дар'я Гліва з Бельска-Падляшскага.

— Мне таксама падабаліся народныя танцы і традыцыйнае спяванне, якім я таксама займаюся ў Хмелеве. Самым цікавым было выконваць з саломы кветачкі і плесці талеркі. Я ўжо шосты раз пабываю на майстар-класах і, калі запросяць, хацела б пабываць тут і ў наступным годзе, — гаварыла Оля Іванюк, якая займаецца ў музычным калектыве ў Хмелеве Жабінкаўскага раёна. Дабавіла яна, што разам з Хрысцінай Трафімук — сяброўкай з Беларусі выконвалі цацкі для ёлкі і пад Вялікдзень.

Марыя Тарасюк з Бельска-Падляшскага паабяцала даць спецыяльны падарунак дзядулю, які прывёз яе на развітальную сустрэчу.

— Гэты падарунак будзе мне самым дарагім і самым блізкім сэрцу і я ўвесь час буду ўспамінаць яго, — сказаў дзядуля Ян Заброцкі з Ягуштова.

— У нас няма ўжо магчымасці завезці сына на вёску і паказаць яму, як у мінулым займаліся рукадзеллем. Я і сама не ведаю чаму тут вучылі і нават мне цікава было б пабываць на майстар-класах і пазаймацца тут, — заявіла Альжбета Рудчук з Бельска. Яе сын Чарак сказаў, што навучыць маму выконваць лялькі, а сам будзе ўжо самастойна прышываць гузікі, калі тыя адарвуцца ад вопраткі, бо гэтаму навучылі ў Студзіводах.

— Мне асабліва падабалася выконванне лялек. Іншыя хлопцы таксама гэта палюбілі, — гаварыў Мацей Лукашэвіч, а Максім Фіёнік быў найбольш рады, што крыху навучыўся іграць на дудзе.

— Удзельнікі нашых майстар-класаў многа працавалі з саломай. Нажалі мы свежага жыта і хацелі яго выкарыстаць для саламяных прадметаў штодзённага ўжытку і для мастацкіх вырабаў, — гаварыў старшыня Дарафей Фіёнік. Хлопцы і дзяўчаты *падбіралі* на полі скошанае касой жыта і разам са старэйшымі рабілі *пярэвяслы* і вязалі жыта ў снапы.

У музеі пад наглядам Наталлі Клімук з Дывіна вучыліся мастацкаму саломапляценню, выконваючы цікавыя бранзалеты, прыгожыя кветачкі, аздабленні на галаву і рукі. Як плесці з саломы звычайныя вырабы паказвала Зоя Майстровіч з Рудутаў. Удзельнікі майстар-класаў выконвалі выцінанкі з дапамогай Ніны Міхайлавай з Брэста, кравецтву маладыя людзі вучыліся пад наглядам Марыі Андраюк з Бельска, а пазней, шыючы, выконвалі лялькі з дапамогай Дайны Клінтс з Латвіі. Цікавыя падарункі з выкарыстаннем лямцу (*фільцу*) выконвалі дзеткі, працуючы з Агнешкай Яцковяк з Познані, а пад наглядам Валянціны Вашчук рабілі прыгожыя кветкі з тонкай паперы. Новым у гэтым годзе была вучоба іграм на музычных інструментах — дудзе і скрыпцы, якім вучылі знатакі сваёй справы Эдуардс Клінтс з Латвіі (дуда) і Мацей Філіпчук з Познані (скрыпка).

— У гэтым годзе было вельмі многа ручных заняткаў і таму менш асоб больш пастаянна вучылася народным танцам, традыцыйнаму спяванню і займалася на музычных інструментах. Канешне, усе ўдзельнікі летніка прайшлі скарочаныя курсы абучэння спевам і танцам. Ужо традыцыйна больш адважнымі да танцаў былі дзяўчаты, але пасля і хлопцы пераломліваліся і тады ўсе танцавалі супольна, — сказала Анна Фіёнік.

Дзеткі разам са сваімі апекунамі пабывалі таксама на аднадзённай экскурсіі. Памаліліся яны перад іконай св. велікамучаніка Дзімітрыя ў царкве ў Саках, паслухалі аповедаў пра гісторыю цудоўнага прыбыцця іконы з Турцыі і пра мужчынскі манастыр у Саках. Удзельнікі майстар-класаў пабывалі ў народнай паэтэсы Зоі Майстровіч у Рудутах, дзе пазнаёміліся з яе вершамі, саламянымі вырабамі і паслухалі яе аповедаў. Гулялі таксама і адпачывалі каля Бахматаўскага вадасховішча.

— Дзеткі вельмі ахвотна выконвалі ўсялякія працы і ангажаваліся ў разнародныя гульні. Была добрая нагода, каб удала і прыемна адпачыць без камп'ютараў. Пры нагодзе маглі пазнаёміцца з нашымі традыцыямі, — сказала Эмілія Гліва, маці дзвюх удзельніц майстар-класаў і заадно пастаянны яго апякун.

У час летніка працавалі таксама іншыя асобы са Студзіводскага музея: Тамаш Суліма, які дбаў, каб усе дзеткі добра паабедалі, ці Юліянія Фіёнік, якая рыхтавала піражкі, блінчыкі і іншае смакоцце на падвячоркі.

— Ёсць дзеткі, якія чарговы раз прымаюць удзел у нашым летніку і для іх наш музей стаў ужо родным месцам. Справа ў тым, каб Студзіводы жылі і дзеля гэтага мы стараемся прыцягнуць на розныя нашыя прапановы маладых і старэйшых асоб. Кожны год нехта з летніка пачынае больш пастаянна займацца ў нашым музеі, у «Жэмэрве» або прымае ўдзел у іншых прапановах. Мы не абмяжоўваемся толькі да летнікаў, бо ў нас ёсць салідная база. Студзіводы, гэта вельмі прыгожае месца ў горадзе Бельску, якое захавала яшчэ вясковы характар, — гаварыў Дарафей Фіёнік.

Ад верасня можна будзе прымаць удзел у ганчарскіх майстар-класах, а пазней маюць распачацца заняткі па кравецтве.





Дарафей Фіёнік з інструктарамі па рукадзеллю

ISSN 0546-1960